# Забойства Нямцова: падазраваны — чачэнец, матыў — сумнеўны

У нядзелю Басманны (жартуюць: «самы гуманны») суд Масквы арыштаваў двух абвінавачваных: чачэнцаў Заура Дадаева і Анзора Губашава. Яшчэ трое ў статусе падазраваных: Шагід Губашаў, Тамерлан Эскерханаў і Хамзат Бахаеў. Шосты падазраваны па справе, Беслан Шаванаў, загінуў у Грозным пры затрыманні — спачатку адстрэльваўся, а потым падарваў сябе гранатай. Чацвёра з затрыманых заявілі, што не вінаватыя; Дадаеў такога не сказаў.

Менавіта Дадаева следства лічыць тым, хто страляў у Нямцова позна ўвечары 27 лютага на Вялікім Маскварэцкім мосце.

Паводле інфармацыі агенцтва «Росбалт», Дадаеў прызнаўся ў арганізацыі гэтага злачынства. Па словах крыніцы, Дадаеў заявіў, што Нямцова забілі з-за негатыўных выказванняў аб мусульманах, якія пражываюць у Расіі, і ісламе ў цэлым.

Аднак вельмі многія ў Расіі, нават маці Дадаева, сумняваюцца ў такім матыве.

Нагадаем, апазіцыйны палітык, які дапускаў адкрытую і рэзкую крытыку Пуціна, быў забіты за дзень да вялікай пратэстнай акцыі, арганізатарам якой быў, і напярэдадні публікацыі свайго даклада пра ўдзел Расіі ў вайне на Данбасе.

У судзе Дадаеў сказаў, што нарадзіўся ў 1982 годзе ў Стаўрапальскім краі, нежанаты, дзяцей няма, цяпер не працуе. Зарэгістраваны ў інгушскім горадзе Малгабек, дакладны адрас у судзе назваць не змог, «бо быў апоўзень». Цікава, што не прагучаў такі факт: Дадаеў служыў у чачэнскім батальёне «Поўнач», якім камандуе брат Адама Дэлімханава — блізкага паплечніка кіраўніка Чачні Рамзана Кадырава. Ёсць фота, на якім ён запанібрата з Кадыравым.



Сам Кадыраў адгукнуўся на арышт у сваім інстаграме. Ён ахарактарызаваў Заура Дадаева як «адважнага воіна» і «сапраўднага патрыёта Расіі». Па словах Кадырава, падчас службы ва Унутраных войсках Дадаеў быў адным з самых бясстрашных і мужных вайскоўцаў свайго палка. «Ён мае шчырую веру ў Расію, быў гатовы аддаць за Радзіму жыццё», — адзначаў Кадыраў, які ў тыя самыя дні атрымаў ад прэзідэнта Расіі ордэн Пашаны.

**Сяргей Мікулевіч**

## ЗША знялі санкцыі з «Беларуснафты»

Санкцыі дзейнічалі амаль **чатыры гады**.

Адпаведнае рашэнне за подпісам памочніка дзяржсакратара ЗША па пытаннях эканомікі і бізнэсу Курта Тонга апублікаванае ў Федэральным рэгістры.

«Дзяржаўны сакратар прыняў рашэнне зняць санкцыі, накладзеныя ў адпаведнасці з Актам аб санкцыях ў дачыненні да Ірана 1996 года, з рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Беларуснафта» ў сувязі з тым, што кампанія больш не займаецца дзейнасцю, якая трапляе пад санкцыйныя абмежаванні, а таксама атрымала гарантыі, што не будзе займацца такой дзейнасцю ў будучыні. Такім чынам, некаторыя санкцыі, уведзеныя ў дачыненні да «Беларуснафты» 29 сакавіка 2011 года, больш не дзейнічаюць», — паведамляецца ў дакуменце.

Санкцыі на «Беларуснафту» былі накладзеныя Дзярждэпартаментам ЗША ў сакавіку 2011 года з сувязі з кантрактам беларускага прадпрыемства з іранскай кампаніяй NaftIran Intertrade.

«Злучаныя Штаты прымаюць дадатковыя меры для ўзмацнення ціску на Іран за яго адмову выканаць свае міжнародныя абавязацельствы ў сувязі з ядзернай праграмай, — гаварылася ў паведамленні Дзяржэпартамента. — Адзін з ключавых элементаў нашай стратэгіі факусуецца на іранскіх магутнасцях па здабычы нафты і газу, якія, як прызнаецца ў рэзалюцыі Рады бяспекі ААН №1929, Іран выкарыстоўвае для фінансавання сваёй дзейнасці па распаўсюджванні [ядзернай зброі], а таксама для маскіроўкі імпарту тавараў двайнога прызначэння».

«У межах гэтай стратэгіі Дзяржэпартамент увёў санкцыі ў дачыненні да беларускай дзяржаўнай энергетычнай кампаніі «Беларуснафта» ў адпаведнасці з Законам аб санкцыях да Ірана 1996 года, дапоўненым Законам аб усёабдымных санкцыях да Ірана, прыцягненні да адказнасці і дывеставанні 2010 года, — за яе ўдзел у іранскім нафтавым сектары», — адзначалася ў паведамленні Дзяржэпдэпа.

Дзяржэпартамент, у прыватнасці, высветліў, што ў 2007 годзе «Беларуснафта» падпісала кантракт на 500 млн даляраў ЗША з іранскай NaftIran Intertrade Company для распрацоўкі нафтавага радовішча Джафэйр. Закон 1996 года прадугледжвае накладанне санкцый на кампаніі, якія інвестуюць больш за 20 млн даляраў.

**Паводле БелаПАН**

### Адукацыя на роднай мове

**Бясплатныя заняткі па-беларуску (мова, гісторыя, інфарматыка) для вучняў 7—9 класаў**

Бясплатныя заняткі па-беларуску (мова, гісторыя, інфарматыка і інш.) для вучняў 7-х—9-х класаў з вядомымі навукоўцамі і педагогамі! Заняткі праходзяць у сядзібе ГА «Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны» (вул. Румянцава, 13, ст.метро «Плошча Перамогі») кожны панядзелак і сераду з 16.30. да 18.20. Тэлефон для даведак: (8 029) 131-48-72.

### Сціслa

**«Газпром» рэзка павялічыў пастаўкі газу ў Еўропу**

З падзеннем цэнаў на нафту Расіі перастала хапаць валюты. У выніку «Газпром», які скараціў у верасні 2014 аб'ёмы паставак газу ў Еўропу, у пачатку сакавіка вярнуў іх на ранейшы ўзровень. Зніжэннем паставак Масква спрабавала мінімізаваць колькасць паліва ў Еўропе, каб еўрапейскія краіны не маглі пастаўляць лішкі паліва ва Украіну, якую Масква спрабавала задушыць газавай блакадай. З 6 сакавіка транзіт праз Украіну вырас амаль на 40%. Каля 70% дадатковага газу пайшло ў Італію, астатняе — у паўднёвую Германію. Таксама «Газпром» амаль удвая павялічыў падачу газу праз Nord Stream, прыкладна да 95 млн кубаметраў у суткі. Загрузка газаправода Ямал — Еўропа вырасла на 19%, да 82 мільёнаў кубаметраў у суткі. Крыніцы звязваюць рэзкае павелічэнне паставак серыяй сустрэч, якія адбыліся 5 сакавіка, падчас якіх маглі быць дасягнуты і палітычныя дамоўленасці.

**Беларусы панеслі валюту ў абменнікі**

У лютым яны здалі больш валюты, чым купілі. Такое здарылася ўпершыню з кастрычніка мінулага года.

**На чыгунцы ў Мінску і Калінкавічах двум мужчынам адрэзала галовы**

9 сакавіка з разбежкай у тры гадзіны пад коламі цягнікоў загінулі двое мужчын. Абодвум адрэзала галаву. Каля 17:00 на перагоне паміж станцыямі Сцяпянка і Азярышча ў сталіцы цягніком Мінск — Віцебск быў насмерць збіты 54-гадовы мужчына без пастаяннага месца жыхарства. Ён ішоў па пуцях. У 20:15 на станцыі Калінкавічы пад дызелем Славечна — Калінкавічы загінуў 22-гадовы хлопец. Ён сам паклаў галаву на рэйкі, кажуць машыністы. У абодвух выпадках машыністы спрабавалі тармазіць і сігналіць, але мужчыны не адрэагавалі.

**Ад чацвярга — пахаладанне**

З паўночнага захаду Еўропы на тэрыторыю нашай краіны прыйдуць хмары і дажджы. Тэмпература паветра панізіцца да -2.. +4° уначы, дзённыя максімумы складуць -1.. + 6°.

**СМ**

### Самае чытанае на nn.by за 4 — 10 сакавіка

1 Спадарожніца Нямцова: Кілер быў настолькі прафесійны, што не паспела нават заўважыць яго
2 ФСБ: Затрыманыя двое падазраваных у забойстве Нямцова
3 Відэаролік «Я — рускі акупант» сабраў на Youtube 3 млн праглядаў
4 У Расіі цкуюць Андрэя Макарэвіча за словы, сказаныя ў Беларусі
5 Мінчукі прыляпілі лаянку на машыне са сцягам «Наваросіі» — фота
6 Расійскі шавініст заклікае ліквідаваць Украіну і Беларусь, абражае Парашэнку і Лукашэнку
7 Цырымонія развітання з Барысам Нямцовым скончылася пад воклічы «Расія без Пуціна»
8 Віктар Марціновіч: Канец эры беларускамоўных фрыкаў
9 Расійскія дзеці пра Беларусь — вясёлае відэа
10 Яблык разладу: якога колеру сукенка?

# 100 уплывовых беларусаў

Ад Рэдакцыі

Спіс самых уплывовых асобаў Беларусі «Наша Ніва» складае другі раз. Папярэдні рэйтынг з'явіўся ў 2013-м. Наш цяперашні топ-100 адлюстроўвае жыццё краіны на пачатак 2015 года.

Ва ўмовах беларускага аўтарытарызму натуральна, што верхняя частка спісу спрэс складаецца з людзей, блізкіх да ўлады. Наконт таго, хто павінен зноў ачоліць «топ», сумневаў не было ні ў кога з экспертаў. Гульцоў у гэтую зборную фактычна набірае адзін чалавек. Ён жа і галоўны трэнер, ён жа і капітан, і галоўны гулец.

Аляксандр Лукашэнка стварыў сістэму аднаасобнай улады. Існуе і своеасаблівае «палітбюро», але яно, у адрозненне ад савецкага часу, нефармальнае.

Бясстрашны Мікола Статкевіч (№45), які пяць гадоў таму кінуў выклік Лукашэнку, па-ранейшаму за кратамі. Але паміж прадстаўнікамі незалежнай супольнасці ён наперадзе ўсіх.

Крытэрыі вызначэння ўплывовасці засталіся нязменнымі. Гэта колькасць людзей пад кіраваннем асобы. Гэта таксама рэсурсы, у тым ліку фінансавыя, якія яна можа размяркоўваць. Гэта і колькасць сфераў грамадскага жыцця, на якія асоба мае ўплыў, а таксама актыўнасць, з якой намінант карыстаецца сваёй уладай. Цікава, што эксперты адзначаюць і тых людзей, уплыў якіх маральны, а не ўладны ці фінансавы. Натуральна, што больш медыйных і харызматычных персон эксперты ставяць вышэй за шэрых кардыналаў. Увогуле, беларускія ўладныя структуры і бізнэс даволі закрытыя, што не можа не мець адбітку на рэйтынгу.

Што важнейшае: асоба ці пасада, якую яна займае? У залежнасці ад сітуацыі. Барыс Батура (№11 у мінулым рэйтынгу), Надзея Ермакова (ех-№16), Анатоль Тозік (ех-№32) пасля адстаўкі адразу ж вылецелі са спісу, Наталля Пяткевіч (ех-№20) балансавала на мяжы першай сотні, але так і не патрапіла ў выніковы рэйтынг. А вось Міхаіл Мясніковіч (ех-№3), хоць ён больш і не прэм'ер-міністр, займае высокае 12-е месца.

«Узлёт года» — гэта новы кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Косінец (з №30 на №3) і навічок рэйтынгу — Павел Калаўр (№8), які апынуўся на чале Нацбанка.

Высокія месцы займаюць усе людзі, што маюць «доступ да цела» У тым ліку, напрыклад, протаіерэй Фёдар Поўны (83), які суправаджае Лукашэнку на хакей, на адпачынках і пажалаваны катэджам у Драздах.

Яшчэ цікава, хто ўвайшоў у топ-100 не з «уладных структур», хто тут з «непрызначэнцаў Аляксандра Лукашэнкі». Акрамя Статкевіча, гэта іншыя лідары апазіцыі — Анатоль Лябедзька (76) і Уладзімір Някляеў (93).

Гэта таксама ўласнік «Тут.бая» Юрый Зісер (41), рэдактарка «Хартыі-97» Наталля Радзіна (46), публіцыстка Святлана Калінкіна і рэдактар «Народнай волі» Іосіф Сярэдзіч (75), старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна (91).

Гэта праваабаронца, нобелеўскі намінант Алесь Бяляцкі (65).

Гэта таксама бізнэсоўцы са сфераў, дзе мае значэнне талент і рызыка, а не пратэкцыя ці дазвол уладаў. Сярод такіх Сяргей Хусаенаў з «Зубр-капітала» (48), Аркадзь Добкін з «Эпам сістэмз» (80) і Віктар Кіслы са «Свету танкаў» (81).

| № | № | Імя | Пасада |
|---|---|---|---|
| 1 | 1 | **Аляксандр Лукашэнка** | кіраўнік краіны |
| 2 | 4 | **Валерый Вакульчык** | старшыня КДБ |
| 3 | 30 | **Аляксандр Косінец** | кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта |
| 4 | 2 | **Віктар Лукашэнка** | памочнік прэзідэнта па пытаннях бяспекі |
| 5 | 5 | **Андрэй Кабякоў** | прэм'ер-міністр |
| 6 | 6 | **Уладзімір Макей** | міністр замежных справаў |
| 7 | 13 | **Ігар Шуневіч** | міністр унутраных справаў |
| 8 | – | **Павел Калаўр** | старшыня праўлення Нацбанка |
| 9 | 9 | **Уладзімір Сямашка** | віцэ-прэм'ер |
| 10 | 10 | **Віктар Шэйман** | кіраўнік справаў прэзідэнта |
| 11 | 7 | **Юрый Чыж** | бізнэсовец, уласнік кампаніі «Трайпл» |
| 12 | 3 | **Міхаіл Мясніковіч** | старшыня савета рэспублікі |
| 13 | 86 | **Валянцін Шаеў** | старшыня Следчага камітэта |
| 14 | 37 | **Мікалай Снапкоў** | намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта |
| 15 | – | **Леанід Анфімаў** | старшыня Камітэта дзяржкантролю |
| 16 | – | **Віктар Шынкевіч** | кіраўнік службы бяспекі прэзідэнта |
| 17 | 46 | **Аляксандр Радзькоў** | памочнік прэзідэнта, лідар «Белай Русі» |
| 18 | 33 | **Аляксандр Канюк** | генеральны пракурор |
| 19 | 19 | **Аляксандр Шакуцін** | бізнэсовец, старшыня рады праўлення «Амкадора» |
| 20 | – | **Лілія Ананіч** | міністр інфармацыі |
| 21 | 18 | **Сяргей Шпягун** | кіраўнік Аператыўна-аналітычнага цэнтра |
| 22 | – | **Васіль Мацюшэўскі** | першы віцэ-прэм'ер |
| 23 | 22 | **Павел Якубовіч** | галоўны рэдактар газеты «СБ. Беларусь сегодня» |
| 24 | – | **Андрэй Раўкоў** | міністр абароны |
| 25 | 24 | **Лідзія Ярмошына** | старшыня Цэнтрвыбаркама |
| 26 | 26 | **Дзмітрый Лукашэнка** | старшыня прэзідэнцкага спартыўнага клуба |
| 27 | 28 | **Сямён Шапіра** | старшыня Мінскага аблвыканкама |
| 28 | 48 | **Усевалад Янчэўскі** | памочнік прэзідэнта па ідэалогіі |
| 29 | – | **Аляксандр Мяжуеў** | дзяржаўны сакратар Рады бяспекі |
| 30 | 8 | **Андрэй Уцюрын** | намеснік дзяржаўнага сакратара Рады бяспекі |
| 31 | – | **Андрэй Шорац** | старшыня Мінгарвыканкама |
| 32 | – | **Генадзь Давыдзька** | старшыня Белтэлерадыёкампаніі |
| 33 | 12 | **Аляксандр Якабсон** | памочнік прэзідэнта па Мінску |
| 34 | 23 | **Леанід Мальцаў** | старшыня Дзяржаўнага пагранічнага камітэта |
| 35 | 54 | **Сяргей Гурулёў** | старшыня Вайскова-прамысловага камітэта |
| 36 | 56 | **Аляксандр Машэнскі** | уласнік «Санта-Брэмар» і «Савушкава-га прадукту» |
| 37 | – | **Міхаіл Русы** | віцэ-прэм'ер |
| 38 | – | **Уладзімір Амарын** | міністр фінансаў |
| 39 | 59 | **Сяргей Румас** | старшыня праўлення Банка развіцця Беларусі, старшыня Федэрацыі футбола |
| 40 | – | **Павел** | праваслаўны Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі, экзарх усяе Беларусі |
| 41 | 63 | **Юрый Зісер** | уласнік партала tut.by |
| 42 | 43 | **Мікалай Лукашэнка** | малодшы сын кіраўніка краіны |
| 43 | 36 | **Рыгор Кісель** | гендырэктар АНТ |
| 44 | – | **Уладзімір Зіноўскі** | міністр эканомікі |
| 45 | 58 | **Мікола Статкевіч** | палітвязень, экс-кандыдат у прэзідэнты |
| 46 | 87 | **Наталля Радзіна** | галоўная рэдактарка сайта «Хартыя-97» |
| 47 | 93 | **Павел Тапузідзіс** | уласнік «Тытунь-Інвест» і «Кароны» |
| 48 | 77 | **Сяргей Хусаенаў** | уласнік кампаніі «Зубр-капітал» |
| 49 | – | **Валерый Міцкевіч** | намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта |
| 50 | – | **Аляксей Дзербін** | дырэктар Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта |
| 51 | 52 | **Анатоль Калінін** | віцэ-прэм'ер |
| 52 | 51 | **Уладзімір Андрэйчанка** | спікер палаты прадстаўнікоў |
| 53 | 94 | **Сяргей Цяцерын** | віцэ-прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта |
| 54 | 57 | **Тадэвуш Кандрусевіч** | каталіцкі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, арцыбіскуп |
| 55 | 45 | **Анатоль Капскі** | генеральны дырэктар «БАТЭ», кіраўнік футбольнага клуба БАТЭ |
| 56 | 15 | **Пятро Пракаповіч** | былы старшыня Нацбанка, Герой Беларусі |
| 57 | 14 | **Уладзімір Пефціеў** | бізнэсовец, былы ўласнік «Белтэхэкспарту» |
| 58 | 38 | **Уладзімір Канаплёў** | старшыня Федэрацыі гандбола |
| 59 | 74 | **Вікторыя Азаранка** | тэнісістка |
| 60 | – | **Святлана Алексіевіч** | пісьменніца |
| 61 | 31 | **Сяргей Касцючэнка** | старшыня праўлення «Прыёрбанка» |
| 62 | – | **Ірына Наркевіч** | намесніца міністра гандлю |
| 63 | – | **Яўген Баскін** | генеральны дырэктар «Сервалюкса» |
| 64 | 40 | **Сяргей Міхалок** | спявак, лідар гурту «Ляпіс Трубяцкой» |
| 65 | 60 | **Алесь Бяляцкі** | праваабаронца, кандыдат на Нобелеўскую прэмію |
| 66 | 34 | **Уладзімір Дворнік** | старшыня Гомельскага аблвыканкама |
| 67 | – | **Уладзімір Даманеўскі** | старшыня Магілёўскага аблвыканкама |
| 68 | – | **Сяргей Літвін, Уладзімір Васілька** | уласнікі «Еўраопта» |
| 69 | 100 | **Васіль Жарко** | міністр аховы здароўя |
| 70 | 73 | **Валянцін Сукала** | старшыня Вярхоўнага суда |
| 71 | – | **Леанід Заяц** | міністр сельскай гаспадаркі і харчавання |
| 72 | 49 | **Ігар Рачкоўскі** | старшыня Федэрацыі хакея |
| 73 | 25 | **Ірына Абельская** | галоўная доктарка Лечкамісіі |
| 74 | – | **Пятро Міклашэвіч** | старшыня Канстытуцыйнага суда |
| 75 | 64 | **Святлана Калінкіна, Іосіф Сярэдзіч** | рэдактары газеты «Народная воля» |
| 76 | 96 | **Анатоль Лябедзька** | старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі |
| 77 | 82 | **Валерый Цапкала** | дырэктар Беларускага парка высокіх тэхналогій |
| 78 | – | **Кірыл Руды** | памочнік прэзідэнта |
| 79 | – | **Іван Галаваты** | генеральны дырэктар «Беларуськалія» |
| 80 | 83 | **Аркадзь Добкін** | старшыня рады дырэктараў EPAM Systems |
| 81 | – | **Віктар Кіслы** | заснавальнік анлайн-гульні «Свет танкаў» |
| 82 | – | **Наталля Качанава** | віцэ-прэм'ер |
| 83 | 85 | **Фёдар Поўны** | праваслаўны протаіерэй |
| 84 | – | **Міхаіл Жураўкоў** | міністр адукацыі |
| 85 | – | **Ігар Бузоўскі** | намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта |
| 86 | 47 | **Максім Рыжанкоў** | памочнік прэзідэнта ў пытаннях спорту |
| 87 | – | **Юрый Сянько** | кіраўнік Мытнага камітэта |
| 88 | 27 | **Міхаіл Захараў** | галоўны трэнер хакейнага «Юнацтва» |
| 89 | – | **Уладзімір Краўцоў** | старшыня Гродзенскага аблвыканкама |
| 90 | – | **Анатоль Ліс** | старшыня Брэсцкага аблвыканкама |
| 91 | 70 | **Жанна Літвіна** | старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў |
| 92 | – | **Мікалай Шарстнёў** | старшыня Віцебскага аблвыканкама |
| 93 | 89 | **Уладзімір Някляеў** | паэт, палітык, лідар кампаніі «Гавары праўду» |
| 94 | – | **Ігар Ляшэнка** | старшыня «Белнафтахіма» |
| 95 | 67 | **Віталь Арбузаў** | уласнік Fenox Global Group |
| 96 | 44 | **Сяргей Сідорскі** | былы прэм'ер-міністр |
| 97 | – | **Віталь Воўк** | міністр прамысловасці |
| 98 | 71 | **Юрый Караеў** | намеснік міністра ўнутраных справаў |
| 99 | – | **Дар'я Домрачава** | біятланістка, алімпійская чэмпіёнка |
| 100 | – | **Аляксандр Цэнцер** | уласнік кампаніі «А-100» |

**Першы нумар** — гэта бягучы рэйтынг, **другі** — рэйтынг два гады таму. **Прочырк** значыць, што чалавек адсутнічаў у папярэднім рэйтынгу.

**Рэйтынг дапамагалі складаць:**
**Максім Беразінскі**, шэф-рэдактар сайта by.tribuna.com
**Віталь Валянюк**, кіраўнік партала «Пра бізнэс», былы палітычны аглядальнік «Советской Белоруссии»
**Ігар Губарэвіч**, прадпрымальнік, былы супрацоўнік Міністэрства замежных справаў
**Зміцер Гурневіч**, журналіст Польскага радыё і тэлеканала «Белсат»
**Аляксандр Заяц**, кіраўнік эканамічнага аддзела tut.by
**Юрый Дракахруст**, палітычны аналітык Радыё «Свабода»
**Аляксандр Зімоўскі**, медыякансультант, былы старшыня Белтэлерадыёкампаніі
**Святлана Калінкіна**, шэф-рэдактар «Народнай волі»
**Андрэй Паратнікаў**, палітолаг, былы супрацоўнік МУС, кіраўнік аналітычнага цэнтра Belarus Security Blog
**Аляксандр Фядута**, публіцыст, былы прэс-сакратар Аляксандра Лукашэнкі
**Аляксандр Чубрык**, дырэктар даследчага цэнтра ІПМ

**Тэксты пісалі:** Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец

# Аляксандр Лукашэнка

1 (1)

Кіраўнік краіны

У 2015 годзе Аляксандр Лукашэнка збіраецца працягнуць свой мандат на выбарах, галасы на якіх лічаць прызначаныя самім жа Лукашэнкам людзі.

Сам Лукашэнка кажа, што ягоную ўладу могуць падарваць дзве рэчы — эканоміка і стан здароўя. Замоўчваецца толькі галоўны фактар — Расія. Бо эканоміка цалкам грунтуецца на вялізных — імаверна, каля 7 мільярдаў даляраў за год — расійскіх нафтагазавых субсідыях узамен на вайскова-палітычную лаяльнасць. Такіх умоваў больш у нікога ў свеце няма! І менавіта на гэтым даволі простым «кантракце» грунтуецца «феномен Лукашэнкі».

Масква зразіла Лукашэнку страхам перад «каляровымі рэвалюцыямі», што перадвызначыла ягоную ўнутраную і эканамічную палітыку.

Тым не менш, нават у такіх умовах Аляксандр Лукашэнка паспяхова трымае вызначаныя сабой «чырвоныя лініі», за якія Маскве ва ўнутрыбеларускіх пытаннях заходзіць забаронена. Таму былы памочнік Пуціна Андрэй Іларыёнаў называе Лукашэнку «цалкам самастойным лідарам». Як прыклад, нязгода з анексіяй Крыма, захопам Абхазіі і непадтрымка спробы Расіі падпарадкаваць Украіну.

Каб Беларусь стала незалежнай, ёй трэба мець альтэрнатыўныя шляхі забеспячэння нафтай і газам. Іх можна атрымаць толькі праз Еўрасаюз. У той жа час рэзкае паляпшэнне адносін з ЕС, Польшчай і Літвой можа прывесці да расійскай агрэсіі. Аднак і без вырашэння гэтай дылемы незалежная Беларусь не зможа існаваць.

Лукашэнка — гэта першы ці апошні прэзідэнт незалежнай Беларусі? Вось ягонае пытанне «быць ці не быць».




**«Апрацуйце спачатку свае землі, а потым ідзіце на чужыя»**

У інтэрв'ю Ксеніі Сабчак, ліпень 2014.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1954 у Копысі (Аршанскі раён) у маці-адзіночкі. Гадаваўся ў вёсцы Александрыя (Шклоўскі раён). Скончыў Магілёўскі педінстытут (1975) і Горацкую сельгасакадэмію (1985). Служыў у памежных войсках КДБ СССР (1975—1977). Сакратар камітэта камсамола Магілёўскага гархарчгандлю (1977—1978), адказны сакратар Шклоўскай райарганізацыі «Веды» (1978—1980), палітрук у войску (1980—1982), намеснік дырэктара калгаса «Ударнік» на Шклоўшчыне (1982—1983), намеснік дырэктара камбіната будматэрыялаў у Шклове (1983—1985), сакратар парткама калгаса імя Леніна Шклоўскага раёна (1985—1987), дырэктар саўгаса «Гарадзец» Шклоўскага раёна (1987–1990). Дэпутат Вярхоўнага Савета (1990—1994), кіраўнік Беларусі (з 1994).

# Валерый Вакульчык

2 (4)

Старшыня КДБ.

Чаму менавіта Вакульчыка лічаць такім уплывовым?

Кіраўнік галоўнай спецслужбы краіны за час працы на пасадзе не запомніўся дурнымі заявамі, як, напрыклад, Сцяпан Сухарэнка. Здаецца, Вакульчык мае ў Камітэце аўтарытэт, у адрозненне ад Юрыя Жадобіна. Вакульчык не трапляў у непрыемныя асабістыя гісторыі, як Вадзім Зайцаў.

Але галоўны сігнал для экспертаў у тым, што сам Лукашэнка ніколі не дазваляў сабе крытыку Вакульчыка, у адрозненне ад многіх ягоных папярэднікаў. На адной з сустрэч з старшынёй КДБ Лукашэнка даў кароткае распараджэнне адносна чыноўнікаў: «Калі нехта не выпраўляецца: кайданкі — і ў камеру. І няхай тады думаюць, як працаваць з народам». Выходзяць амаль бязмежныя паўнамоцтвы.




**«Пагроза бяспецы, з улікам баявых дзенняў ва Украіне, прысутнічае і для Беларусі».**

Кастрычнік, 2014

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1964 у вёсцы Радастава (Драгічынскі раён). Скончыў Харкаўскае гвардзейскае вышэйшае танкавае каманднае вучылішча, Вышэйшыя курсы вайсковай контрвыведкі КДБ СССР, Акадэмію кіравання. Служыў ва Узброеных сілах (1985–1991), у органах дзяржаўнай бяспекі (1991–2008). Працаваў начальнікам Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры прэзідэнце (2008—2011), старшынёй Следчага камітэта (2011—2012). Старшыня КДБ (з 2012).

# Аляксандр Косінец

3 (30)

Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта.

Мужна вытрымаўшы цяжкае выпрабаванне Віцебскам, Косінец вярнуўся ў сталіцу. Ды не абыкім, а кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта. Тое, што працу старшынёй Віцебскага аблвыканкама ён разглядаў як часовую, можа сведчыць нават той факт, што Косінец не закідаў будаўніцтва катэджа ў Драздах.

Косінец ініцыятыўны і энергічны, справай гонару для яго было, каб у яго ў вобласці было лепш, чым у астатніх. З мінусаў называюць ягоную гарачнасць, рэзкасць. Але нашто заставацца гарачым, калі ты дасягнуў сваго піку? Вышэй прызначаць яго ўжо няма куды.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1959 у вёсцы Роскі Сялец на Аршаншчыне. Закончыў Віцебскі дзяржаўны медыцынскі інстытут (1982), працаваў у ім да 1994. Кіраўнік РНПЦ «Інфекцыя і хірургія» (1995—1997), доктар медыцынскіх навук, рэктар Віцебскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта (1997—2005), віцэ-прэм'ер (2005—2008), старшыня Віцебскага аблвыканкама (2008—2014). З 2014 — кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта.



**«Гэты чалавек — вялікі палітык і дзяржаўны дзеяч. Ён адыграў вялікую ролю ў развіцці беларускай дзяржаўнасці».**

На адкрыцці помніка князю Альгерду ў Віцебску.



4 (2)

# Віктар Лукашэнка

Памочнік прэзідэнта ў пытаннях бяспекі.

Сёлета старэйшаму сыну Лукашэнкі спаўняецца 40 гадоў, і Віктар працягвае займаць ключавую, хоць і непублічную пасаду памочніка. На экранах тэлевізараў ён з'яўляецца толькі пры нарадах сілавікоў. У арабскіх СМІ ягонае прозвішча стракацiць часцей, Віктар пастаянна наведвае ААЭ ці Катар — краіны, якія маюць агромныя рэзервавыя фонды і шукаюць, куды б іх інвеставаць.

Інтэрв'ю Віктара Лукашэнкі з'яўляюцца гады ў рады. Што ў галаве ў яго, журналістам невядома.

У памочніка прэзідэнта моцная і вялікая сям'я (чацвёра дзяцей), з якой ён заўжды з'яўляецца на публіцы перад Новым годам.

**«Дапамагаць табе там ніхто не будзе, бо ўсім цяжка»**

У фільме аб спецпадраздзяленні АСАМ.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1975 на Магілёўшчыне. Скончыў факультэт міжнародных адносінаў БДУ (1999). Служыў у спецпадраздзяленні памежных войскаў АСАМ, быў трэцім сакратаром, дарадцам у аддзеле Заходняй Еўропы у МЗС (2003—2005), працаваў начальнікам аддзела замежна-эканамічных сувязяў НДІ сродкаў аўтаматызацыі (2003—2005). Ад 2005 — памочнік прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы.

# Андрэй Кабякоў

5 (5)

Прэм'ер-міністр.

Падчас леташніх дыскусій, якія датычыліся эканамічнага развіцця краіны, Кабякоў, тагачасны кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта, трымаўся нейтралітэту. Ён падтрымліваў урадоўцаў, якія патрабавалі танных крэдытаў, але і не пярэчыў памочніку Лукашэнкі Кірылу Рудаму, які заклікаў да лібералізацыі.

У выніку Кабякоў застаўся ў белым. Менавіта яго Лукашэнка прэзентаваў як «новы твар» на пасадзе прэм'ер-міністра.

Галоўная перавага фармальна другой асобы краіны — месца нараджэння. Кабякоў паходзіць з Масквы, а значыцца, нават тэарэтычна не можа пайсці ў прэзідэнты.

**«Расія — не проста краіна, гэта — Радзіма».**

Снежань 2011.

**Аб'ектыўка**

Нарадзіўся ў 1960 у Маскве. Скончыў Маскоўскі авіяцыйны інстытут (1983), Наргас (1991). Працаваў на заводзе «Дыяпраектар» (1985–1995). Намеснік начальніка Службы дзяржкантролю (1995–1998). Старшыня КДК (1998–2000). Віцэ-прэм'ер (2000–2002, 2003–2008). Міністр эканомікі (2002–2003). Намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта (2008–2010). Пасол Беларусі ў Расіі (2011–2012). Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта (2012–2014), прэм'ер-міністр (ад 2014).



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Уладзімір Макей

6 (6)

Міністр замежных справаў.

Здаецца, «паніжэнне» да міністра замежных справаў мала як адбілася на Уладзіміру Макею. Наадварот, гэты чыноўнік, які добра валодае нямецкай і англійскай мовамі, адчувае сябе больш упэўнена ў калідорах Брусэля і Страсбурга, чым наведваючы завод у Клімавічах ці седзячы на нарадах аб паляўнічстве і рыбалоўстве

Макей энергічны і цікаўны. Ён умее пажартаваць і пасмяяцца. Гэта высока цэніцца як замежнымі гасцямі, гэтак і кіраўніком краіны. Макей здольны зачараваць многіх.

Чыноўнік ужо быў канструктарам адной з «адліг» афіцыйнага Мінска і Еўропы. Сёння наспявае наступная. І ў галоўных ролях зноў гэты самы разведчык родам з Карэліцкага раёна.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Мы хочам быць роўнанаближанымі і да Усходу, і да Захаду, і да Поўдня, і да Поўначы, і да космасу, і, можа быць, да глыбінь Зямлі».**

Люты 2015.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1958 у вёсцы Некрашэвічы Карэліцкага раёна. Скончыў Мінскі дзяржаўны інстытут замежных моваў (1980), служыў у савецкай разведцы (1980—1992), палкоўнік запасу. Перавучваўся ў Дыпламатычнай акадэміі МЗС Аўстрыі (1992—1993). Знаходзіўся на дыпламатычнай службе (1993—2000), працаваў памочнікам прэзідэнта (2000—2008), кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта (2008–2012). Ад жніўня 2012 — міністр замежных справаў. Мае сыноў ад абодвух шлюбаў. Другая жонка — актрыса і тэлевядучая.

# Ігар Шуневіч

7(13)

Міністр унутраных справаў.

Ёсць меркаванне, што сціснутыя вусны гавораць пра закрытасць чалавека і і некаторыя іншыя рысы. Шуневіч не самы кідкі з лукашэнкаўскіх міністраў. Мабыць, немалаважна ў гэтым «кадэбэшнае» мінулае міністра. Але ўплыў яго відавочна рос.

За апошні год міліцэйскі начальнік прасунуў вельмі жорсткае новае заканадаўства для наркагандляроў і наркаманаў. Шуневіч быў сярод тых, хто распрацоўваў закон аб «дармаедстве».

Разам з тым, міліцыя застаецца рэпрэсіўным органам, маючы вялізную людскую сілу. Сам міністр адмаўляе наяўнасць у Беларусі прэвентыўных затрыманняў і палітвязняў. Але ж хто яму паверыць?



**Аб'ектыўка**

Нар. у 1967 ва Украіне (Луганская вобласць). У 1992 скончыў Акадэмію міліцыі МУС Беларусі, служыў у міліцыі. Працаваў у КДБ (2007–2012). У студзені 2012 прызначаны першым намеснікам міністра ўнутраных справаў, у маі таго ж года — міністрам.

**«Патрабаванні закона выконвалі, выконваем і будзем выконваць».**

Пасля канфіскацыі ўкраінскіх сцягаў на «Мінск-Арэне».

**Аб'ектыўка**

Нарадзіўся ў 1962 у вёсцы Белавуша на Століншчыне. Скончыў Пінскі ўліковакрэдытны тэхнікум (1980), Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі імя Куйбышава (1985). Кандыдат эканамічных навук (2001).

Працаваў у Стаўбцоўскім, Бярэзінскім, Валожынскім аддзяленнях Дзяржбанка СССР (1985–1987), узначальваў Валожынскае аддзяленне Аграпрамбанка СССР (пасля — «Белаграпрамбанка») (1988–1993).

Працаваў у сістэме Нацбанка (1993–2010), спачатку намеснікам старшыні праўлення, з 1999 — першым намеснікам. Старшыня праўлення банка «БелВЭБ» (2010–2014). Старшыня праўлення Нацбанка (з 2014).

# Павел Калаўр

Старшыня праўлення Нацбанка.

Новы галоўны банкір краіны пагасіў валютны крызіс менш чым за месяц. Яго ная папярэдніца Надзея Ермакова ў 2011-м раскачвалася амаль паўгода.

Калаўр — пазітыўны вобраз чыноўніка, які прабіўся наверх дзякуючы мазгам, а не сувязям. Ён не баіцца прымаць рашэнні, гатовы чуць розныя меркаванні, на нарады Нацбанка запрашаюць незалежных эканамістаў. Аднак кірунак манетарнай палітыкі ўсё адно вызначаюць не ў Нацбанку, а ў калідорах Адміністрацыі прэзідэнта.

8 (-)



TUT.BY

**«Любы дазвол разлікаў у замежнай валюце — удар па сваёй».**

Снежань 2011.

# Уладзімір Сямашка

9 (9)

Віцэ-прэм'ер.

Ператасоўкі чыноўнікаў доўгі час не закраналі Уладзіміра Сямашку — дзесяць гадоў на адной пасадзе! Але снежаньская ракіроўка прынесла яму паніжэнне. Цяпер ён не першы віцэ-прэм'ер, а проста віцэ-прэм'ер. Але сфера дзейнасці ранейшая: Сямашка адказвае за цану на нафту і газ, а таксама за будаўніцтва АЭС. «Ён як бульдог у перамовах, нікому ніякай пазіцыі не саступіць, і гэта ўсё аргументавана», — хваліць яго Лукашэнка, наракаючы толькі на цяжкі характар чыноўніка.

«Ёсць правіла руху знізу ўверх па іерархічнай лесвіцы ... Я [Сямашку] прапаноўваў і іншыя пасады, цяжкія пасады ... Ён мне кажа: «Не, калі вы не супраць, я яшчэ тут папрацую», — расказваў Лукашэнка. Няўжо Сямашка пайшоў на паніжэнне праз адмову стаць прэм'ер-міністрам?



ВАДЗІМ ЗАМІРОЎСКІ, TUT.BY

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1949 у Калінкавічах. Закончыў БНТУ (1972). Пасля службы ў войску (1972–1974) працаваў на «Інтэграле» (1974–1996). Генеральны дырэктар «Гарызонта» (1996–2001). Міністр энергетыкі (2001–2003). Першы віцэ-прэм'ер Беларусі (2003–2014), віцэ-прэм'ер (ад 2014).

**«Столькі крытыкаў вакол — часам рукі апускаюцца, думаеш, лепш наогул не займацца нічым».**

У парламенце, кастрычнік 2014.

# Віктар Шэйман

10(10)

Кіраўнік справаў прэзідэнта.

Быў нейкі перыяд, калі здавалася, што Шэймана ўжо не вернуць у палітычную эліту краіны. Выбух 2008 года быў зручнай нагодай, каб пазбавіцца ад «тыгра», як многія за вочы называюць Шэймана. Але прайшло ўсяго пару месяцаў, як ягоныя досвед і хітрасць зноў сталі запатрабаванымі на самым версе.

Сёння Шэйман не выглядае такім усёмагутным, як гадоў дзесяць таму, але яго «злавесная цень» па-ранейшаму прысутнічае на нарадах сілавікоў і вайсковых парадах. Сёння Шэйман, здаецца, ужо канчаткова разгроб «аўгіевы стайні» Кіраўніцтва справаў прэзідэнта. Яму хапае часу нават на лацінаамерыканскія турнэ, а гэта значыць, што перад ім могуць паставіць новыя задачы.



**«Уга Чавес быў адным з найвялікшых дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, сапраўдным лідарам нацыі з уласцівымі яму высокай эрудыцыяй, дзівоснай харызмай, жыццярадаснасцю».**

Пасля смерці прэзідэнта Венесуэлы.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1958 у вёсцы Салтанішкі (Воранаўскі раён). Служыў у Савецкай Арміі, у тым ліку ў Афганістане. Дэпутат Вярхоўнага Савета ад Брэсцкай вобласці (1990—1995), дзяржаўны сакратар Рады бяспекі (1994—2000 і 2006—2008), генеральны пракурор (2000—2004), кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта (2004—2006). Узначальваў перадвыбарны штаб Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах. Быў памочнікам па асаблівых даручэннях. Ад студзеня 2013 — кіраўнік справаў прэзідэнта.

# Юрый Чыж



11(7)

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Уласнік кампаніі «Трайпл».

Ніводзін іншы беларускі мільянер не мае такой разнастайнасці ў бізнэсе. У імперыі Юрыя Чыжа і нафтавы сектар, і нерухомасць, і рытэйл, і будматэрыялы, і фармацэўтыка, і турызм, і рэстараны... А таксама любімая цацка — футбольнае «Дынама», якое летась упершыню дайшло да групавой стадыі еўракубкаў.

Чыж па-ранейшаму лічыцца самым багатым і ўплывовым бізнэсменам краіны. Ён мае дзяржаўныя ўзнагароды, яму ўдаецца атрымліваць ласыя кавалкі зямлі пад будаўніцтва ў Мінску.

У адказ Чыж бярэ на сябе «сацыяльную нагрузку». Пасля зімовай Алімпіяды трыа беларускіх чэмпіёнаў атрымала ў падарунак кватэры ў знакамітым доме «Ля Траецкага».

Дарэчы, падчас спаборніцтваў мільянер лятаў у Сочы разам з іншымі сябрамі Лукашэнкі. Быў ён побач з кіраўніком краіны падчас леташняй паездкі ў Аб'яднаныя Арабскія Эміраты.

Чыж застаецца апошнім бізнэсменам у чорным спісе неўязных у Еўрасаюз, ягоныя былыя «калегі», Уладзімір Пефціеў і Анатоль Тарнаўскі, ужо выкраслены адтуль. Што да кампаній Чыжа, то некаторыя з іх атрымалі амністыю ад еўрапейскіх чыноўнікаў.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1963 у вёсцы Сабалі Бярозаўскага раёна. Скончыў БНТУ. Майстар спорту СССР па грэка-рымскай барацьбе. Уласнік рознагаліновай бізнэс-імперыі «Трайпл». Трапіў пад санкцыі Еўрасаюза як «кашалёк Лукашэнкі». Жанаты, мае трох дзяцей.

**«Нагу паставіць няма куды, абавязкова пад ёй што-небудзь знойдуць: то ад мангола-татараў развалiны, то яшчэ нешта».**

Снежань 2014.

# Міхаіл Мясніковіч

12(3)

Старшыня савета рэспублікі.

Урад Міхаіла Мясніковіча Лукашэнка фактычна аб'явіў вінаватым у валютным крызісе. Але нікога з чыноўнікаў так і не пакаралі.

Новая пасада Мясніковіча — сінекура. Амаль нікога з ягоных папярэднікаў (апроч Барыса Батуры) Лукашэнка не вяртаў у вялікую палітыку.

Але ці верыць хто-небудзь, што дасведчаны Міхаіл Мясніковіч насамрэч застанецца па-за гульнёй? Ён быў кіраўніком выбарчага штаба ў Вячаслава Кебіча падчас разгромнай паразы ў 1994, на дзесяцігоддзе трапіў у Акадэмію навук, але ўсё адно вярнуўся наверх.

Яшчэ з 1990-х ён мае шчыльныя сувязі з расійскімі элітамі і застаецца самым пазнавальным беларускім палітыкам пасля Лукашэнкі.

У статусе старшыні савета рэспублікі Мясніковіч працягвае катацца па краіне, нібыта і не сыходзіў з пасады прэм'ер-міністра.



KYKY.ORG

Адстаўны прэм'ер спрабуе знайсці агульную мову са свецкай тусоўкай.

**«Перадусім мы павінны глядзець, каб было спакойна на валютным рынку».**

Лістапад 2014, падчас публічнай дыскусіі з памочнікам прэзідэнта Кірылам Рудым.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1950 у вёсцы Новы Сноў Нясвіжскага раёна. Закончыў Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут (1972), Мінскую Вышэйшую партыйную школу (1989). Доктар эканамічных навук.

Інжынер «Мінскводаканала» (1973—1977), галоўны інжынер, кіраўнік упраўлення прадпрыемстваў камунальнага абслугоўвання Мінгарвыканкама (1977—1983). Працаваў у кіраўніцтве мінскага Савета народных дэпутатаў (1983—1985), быў сакратаром Мінскага гаркама КПБ (1985—1986). Міністр ЖКГ БССР (1986—1990), старшыня Дзяржкамітэта па эканоміцы і планаванні (1990—1991). Віцэ-прэм'ер (1990—1995), кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта (1995—2001), кіраўнік Акадэміі навук (2001—2010), прэм'ер-міністр (2010—2014). З 2015 — старшыня савета рэспублікі. Жанаты, мае сына і дачку.

# Мікалай Снапкоў

14(37)

Намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта.

Снапкова традыцыйна лічыць прыхільнікам рынкавай эканомікі. На пасадзе міністра эканомікі яму дазвалялася генераваць новыя ідэі, а вось паўнамоцтваў на іх рэалізацыю бракавала. Цяпер чыноўнік вярнуўся ў кіраўніцтва Адміністрацыі прэзідэнта.

З кожным годам Снапкоў пачуваецца ўсё больш упэўнена. Ён можа належным чынам прэзентаваць краіну на міжнародным узроўні, гатовы і да кантактаў з незалежнымі экспертамі.

Адзін з самых маладых міністраў Беларусі прыйшоў на высокую пасаду фактычна ніадкуль, і гэта галоўная загадка ў ягонай біяграфіі. Некаторыя казалі, што гэта фаварыт Барыса Батуры, іншыя шукалі сваяцкія ці сяброўскія сувязі між жонкай Снапкова і нявесткамі Аляксандра Лукашэнкі. Аднак пра сям'ю эканаміста дагэтуль нічога невядома, толькі сам Снапкоў прызнаваўся, што ягоная маці жыве ў Літве. Дый самога чыноўніка бачылі на закупах у «Акропалісе».

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1969 у Магілёве. Закончыў Беларускую сельгасакадэмію (1991), Акадэмію кіравання (2001). Працаваў эканамістам, старшым эканамістам, бухгалтарам у калгасах Магілёўшчыны і Гродзеншчыны, у сістэме «Белаграпрамбанка». Намеснік старшыні Горацкага райвыканкама (1996—2000), начальнік фінансавага ўпраўлення, а пасля намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама (2000—2009). Намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта (у 2009 і з 2014). Міністр эканомікі (2009—2014).




СЯРГЕЙ ЗІНІН

**«Ні я, ні каманда Мінэканомікі не з'яўляемся рэфарматарамі. Мы прагматыкі».**

Снежань 2014, да змены месца працы.

# Валянцін Шаеў

Кіраўнік Следчага камітэта.

На сёння Следчы камітэт — гэта самая актыўная і самая празрыстая сілавая структура краіны. Ці не кожны дзень з'яўляюцца навіны, якія так ці інакш тычацца Следчага камітэта.

Валянцін Шаеў амаль усю сваю кар'еру правёў па-за Мінскам. Спачатку ён доўгі час працаваў пракурорам Расонскага раёна. Калі пайшоў на павышэнне, то стаў пракурорам Гомельскай вобласці. Такім чынам Шаеў не быў завязаны з мінскімі групоўкамі. Але харызмы і яркасці гэтаму сілавіку ўсё ж не хапае.

Нізкае месца ў папярэднім рэйтынгу тлумачыцца тым, што Шаеў толькі-толькі быў прызначаны на сваю пасаду. Таму да яго хутчэй прыглядаліся. За гэты час адкрытых дурасцяў даверанае яму ведамства не нарабіла.



13(86)

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1964 у Глыбокім. Скончыў Віцебскі тэхнікум электрасувязі (1984) і БДУ па спецыяльнасці «правазнаўства» (1991). Працаваў у органах пракуратуры (1991—2011). Старшыня Следчага камітэта (з 2012).

# Леанід Анфімаў



15(-)

БЕЛТА

Старшыня Камітэта дзяржкантролю.

Анфімаў нарадзіўся ў расійскай глыбінцы ў мястэчку з паэтычнай назвай Сіма Юр'еў-Польскага раёна Уладзімірскай вобласці. Кажа, што першай ягонай працай было пасвіць калгасных коней. Цяпер Анфімаў галоўны «пастух» краіны. Гэты дзядуля, які дабрадушна ўсміхаецца з-пад сівых вусаў, наводзіць страх на многія арганізацыі і людзей. Праверак КДК рэальна баяцца.

Некалі Анфімаву былі не чужыя ліберальныя погляды. Некалі ён стаяў ля вытокаў Грамадзянскай партыі, якая ў будучыні пераўтворыцца ў АГП. Праўда, пазней ён прадказваў падзенне Амерыкі і даляра. А вось пра рубель ён маўчаў.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1954 годзе. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (1977), Наргас (1988). Працаваў інструктарам прамыслова-транспартнага аддзела Заводскага райкама КПБ, генеральным дырэктарам вытворчага аб'яднання «Дызайн». Ад 1991 да 2001 працаваў у Мінгарвыканкаме. Потым сыходзіў у КДК, пасля чаго зноў вяртаўся ў Мінгарвыканкам. З красавіка 2006 намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. У снежні 2010 стаў намеснікам старшыні КДК. Ад кастрычніка 2014 — старшыня КДК.

**«Эканоміка стала закладнікам банкаўскай сістэмы. Банкаўская сістэма стала свайго роду МММ, дзе ламавую нагрузку цягнуць прадпрыемствы рэальнага сектара».**

На нарадзе па бягучых эканамічных пытаннях, лістапад 2014.

# Віктар Шынкевіч

16(-)

Кіраўнік службы бяспекі прэзідэнта.

Служба бяспекі прэзідэнта — адна з самых закрытых спецслужбаў краіны. Ніхто не ведае дакладную колькасць людзей, якія працуюць у гэтай структуры, але вядома, што лік ідзе на сотні. Кіраўнік службы бяспекі — адна з ключавых пасад у сённяшняй Беларусі.

Уласна Шынкевіч больш нагадвае чыноўніка, чым сілавіка. Шынкевіч — своеасаблівы мазгавы цэнтр, які займаецца пытаннямі планавання і забеспячэння аперацый.

Сённяшні галоўны целаахоўнік краіны — чалавек не самы малады, старэйшы за свайго папярэдніка Уцюрына.

**«Гэта не кіно, і пралікі ў працы недапушчальныя».**

У інтэрв'ю газеце «Во славу Родины».



БЕЛТА

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1960 годзе ў вёсцы Кромавічы Докшыцкага раёна. Скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут, Вышэйшыя курсы КДБ СССР, Акадэмію кіравання. Ад 1986 да 1995 праходзіў службу на розных пасадах у органах КДБ. Ад 1995 па цяперашні час — у службе бяспекі прэзідэнта. Ад 2014 — начальнік службы бяспекі. Палкоўнік.

# Аляксандр Радзькоў

Памочнік прэзідэнта.

Фармальна Радзькова панізілі, калі перавялі з першага намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта ў ранг памочніка. Але фактычна Радзькоў атрымаў неабмежаваны доступ да кіраўніка краіны. Цяпер менавіта ў абавязкі Радзькова ўваходзіць азнаямленне Лукашэнкі са свежымі навінамі, падрыхтоўка сустрэч і тэлефонных размоваў, нават адчыніць дзверцы аўтамабіля падчас паездкі за мяжу ці ў рэгіёны.

Радзькоў — чалавек надзейны. Таму яго і не баяцца ставіць кіраўніком «Белай Русі». Як міністр і ідэолаг, Радзькоў запомніўся тым, што пры ім зачынілі Коласаўскі ліцэй, перавялі выкладанне гісторыі на рускую мову. А таксама за подпісам гэтага чалавека ішлі фармуляры аб «недапушчэнні прымусовай беларусізацыі ў Брэсцкай вобласці».

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1951 у вёсцы Вотня (Быхаўскі раён). Доктар педагагічных навук. Рэктар Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта (2001—2003). Міністр адукацыі (2003—2010), ад 2010 — першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. Ад 2014 — памочнік прэзідэнта. Узначальвае «Белую Русь». Быў кіраўніком ініцыятыўнай групы Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах—2010.



17(46)

**«Калі няма кансалідацыі, няма адзінага нацыянальнага лідара, то, як паказвае сітуацыя ў суседняй краіне, можа быць вайна».**

З'езд «Белай Русі», лістапад 2014.

# Аляксандр Канюк

18(33)

Генеральны пракурор.

У гэтага генерала няпросты асабісты лёс. Дзесяць гадоў таму ў яго загінуў 19-гадовы сын, які сышоў з дому праз канфлікт з-за камп'ютара. Магчыма, менавіта гэтая падзея наклала адбітак жалобы на твар генпракурора. Ён вельмі рэдка ўсміхаецца.

Аўтарытэт і пазіцыі генпракуратуры падарвала справа намесніка Аляксандра Архіпава, які за хабар у выглядзе залатога злітка спыніў крымінальную справу супраць злачынцы. Але сам Аляксандр Канюк не быў ублытаны ў гэтую гісторыю.



БЕЛАПАН

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1960 у Гродне. Скончыў БДУ (1982). Пасля паступіў у распараджэнне камандзіра вайсковай часці ў Барысаве. Два гады быў камандзірам узвода. Потым паступіў у распараджэнне Упраўлення вайсковых трыбуналаў у Маскве. Ад 1993 — суддзя Беларускага вайсковага суда. Ад 1997 — суддзя і старшыня Мінскага міжгарнізоннага вайсковага суда. Ад 2006 — суддзя і старшыня Беларускага вайсковага суда. Ад 2009 года — намеснік старшыні, старшыня вайсковай калегіі Вярхоўнага Суда. Ад верасня 2011 — генеральны пракурор. Генерал-маёр юстыцыі.

**«Напэўна, мы сёння яшчэ не гатовыя да інстытута прысяжных. Дзяржава не гатова, не гатовы менталітэт нашага народа».**

Лістапад 2014.

# Аляксандр Шакуцін

19(19)

Старшыня рады дырэктараў ААТ «Амкадор».

На працягу апошніх гадоў Шакуцін стаў самым набліжаным да Аляксандра Лукашэнкі бізнэсменам. Мільянер суправаджае яго і падчас рабочых турнэ, сумешчаных з адпачынкам, і нават падчас сямейных візітаў да цешчы Лукашэнкі. А калі на сына Шакуціна быў здзейснены разбойны напад, то кіраўнік краіны ўзяў расследаванне справы пад асабісты кантроль.

Бізнэсмен свядома абраў стратэгію блізкасці да ўлады. Ён сёмы год сядзіць у савеце рэспублікі і з задавальненнем забірае да сябе чыноўнікаў-адстаўнікоў.

Напрыклад, дырэктар «Амкадора» — былы памочнік прэзідэнта Сяргей Ткачоў, а ягоны намеснік — былы віцэ-мэр Мінска Сяргей Радаман.

Холдынг Шакуціна тым часам атрымлівае новыя і новыя заводы. Акрамя таго, разам з навапалацкім сябрам і партнёрам Мікалаем Вараб'ём Шакуцін выкупіў «Абсалютбанк», а таксама выказаў жаданне заняцца турбізнэсам.

Сярод актываў бізнэсмена застаецца і прадзюсарскі цэнтр «Спамаш», голас якога — самая маладая заслужаная артыстка краіны Алена Ланская. Разам з ёй Шакуцін спрабаваў скарыць «Еўрабачанне».



**Аб'ектыўка**

Нар. у 1959 у вёсцы Вялікае Бабіна Аршанскага раёна. Закончыў Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт па спецыяльнасці «хірургія». Працаваў загадчыкам хірургічнага аддзялення 10-й мінскай бальніцы, дырэктарам медцэнтра МТЗ. У якасці прэзідэнта прадпрыемства «Праммедінвест» займаўся пастаўкамі медыцынскага абсталявання. Старшыня рады дырэктараў ААТ «Амкадор» (з 2005), член савета рэспублікі (з 2008), старшыня Беларускай тэнiснай федэрацыі (з 2012).

**«Мы дамовіліся, што Шакуцін ніколі не будзе выводзіць грошы ў афшоры ці яшчэ кудысьці хаваць, а будзе ўкладаць у эканоміку Беларусі».**

Аляксандр Лукашэнка ў снежні 2014.

# Лілія Ананіч

Міністр інфармацыі.

Заменай папярэдняму міністру Алегу Праляскоўскаму (№62 у рэйтынгу за 2013) стала першая намесніца. У адрозненне ад папярэдніх міністраў, ад першых дзён на пасадзе праяўляе напорыстасць, што і вывела яе ў рэйтынгу на вышэйшыя пазіцыі.

Увогуле, Лілія Ананіч працуе ў структуры міністэрства больш за 20 гадоў. Гэта яна падпісвала дакумент аб спыненні дзейнасці выдавецтва «Логвінаў» за выданне альбома «Прэс-фота Беларусі—2011», гэта яна выносіла папярэджанні незалежным СМІ (у тым ліку і за выкарыстанне абрэвіятуры «РБ»), гэта яна апелявала да досведу Кітая, які ўвёў інтэрнэт-цэнзуру.

Пры гэтым барацьбу за аўдыторыю ў інтэрнэце дзяржаўная прапагандысцкая машына прайграе ўчыстую. Лукашэнкаўцы са сваімі рэсурсамі не могуць нават наблізіцца да папулярнасці «Тут.бая», «Анлайнера», «Хартыі'97». А магутныя расійскія прапагандамашыны па-ранейшаму кантралююць беларускую тэлепрастору.



КІРЫЛА ХІЛЬКО

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1960 ў вёсцы Леванова Барысаўскага раёна. Скончыла журфак БДУ (1982) і Акадэмію кіравання (2000). Працавала рэдактарам вайсковага НДІ сродкаў аўтаматызацыі ў Мінску (1984—1992). З 1992 — у сістэме Міністэрства інфармацыі, з 2014 — міністр. Замужам, мае дваіх дзяцей.

**«Ідэалогія паўсюль: у краме, на спажывецкай паліцы, у бібліятэцы, куды прыходзіць дзіця, на прадпрыемстве, дзе мы атрымліваем заработную плату».**

Верасень 2014.

# Сяргей Шпягун

Кіраўнік Аператыўна-аналітычнага цэнтра.




Некалі дзяржаўныя тэлеканалы паказалі відэа сустрэчы Сяргея Шпегуна з Аляксандрам Лукашэнкам. За некалькі хвілінаў «дыялогу» кіраўнік ААЦ толькі пару разоў адказаў: «Так». Увесь астатні час Лукашэнка сам тлумачыць, што прапануе ААЦ, сам пераконвае сябе і сам з сабой згаджаецца, як жартавалі ў інтэрнэце.

Уласна кажучы, за апошнія два гады гэта была адзіная згадка аб Шпегуну ў дзяржаўных і недзяржаўных СМІ. ААЦ працягвае сачыць за інтэрнэтам, а калі трэба, то ўключае «рубільнік». Менавіта ААЦ часова пазбавіў даменнай зоны .by папулярны сайт Onliner. Ведамства Шпегуна займаецца блакаваннем і абмежаваннем доступу да сайтаў.

Лукашэнка некалі казаў, што вельмі давярае гэтай спецслужбе. Сам жа Шпягун на розных нарадах сядзіць побач з Віктарам Лукашэнкам і Валерыем Вакульчыкам.

**Аб'ектыўка**

Біяграфія адсутнічае ў адкрытым доступе.

**«Дзяржава, калі засяродзіцца і створыць супольную платформу, зэканоміць на куплі абсталявання і абслугоўванні».**

Дакладваючы А.Лукашэнку аб стварэнні рэспубліканскай інфармацыйнай платформы.

# Васіль Мацюшэўскі



Першы віцэ-прэм'ер.

Васіль Мацюшэўскі размаўляе па-англійску, умее стылёва апранацца і не баіцца ўсміхацца ў камеру. Топ-менеджар, які скончыў Лонданскую бізнэс-школу, пагадзіўся стаць тварам пераменаў у крызісны час.

Калісьці ён (а яшчэ і Павел Калаўр) дапамагаў будаўніку Пятру Пракаповічу, якога лёс закінуў у старшыні Нацбанка. За 2001—2007 курс даляра фактычна не мяняўся, і ў гэтым была велізарная заслуга намесніка.

Цяпер Мацюшэўскаму давядзецца рухаць рэформы і шукаць паплечнікаў сярод наменклатуры. Аднак у вялікай палітыцы цяжка застацца ў белым. Першага віцэ-прэм'ера ўжо паспелі непрыгожа падставіць. Лідара грузаперавозчыкаў Сяргея Штоду паклікалі ў Дом урада на прыём да Мацюшэўскага, які насамрэч быў у замежнай камандзіроўцы. А Штоду затрымалі і пасадзілі на суткі.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1969 у Оршы. Скончыў эканамічны факультэт БДУ (1991), аспірантуру Інстытута эканомікі Акадэміі навук (1994), Лонданскую школу бізнэсу (2012). Кандыдат эканамічных навук.

Працаваў начальнікам аддзела ў НПА «Фенікс» (1991—1992), навуковым супрацоўнікам НДІ эканомікі Дзяржэканамплана (1992), трэцім сакратаром МЗС (1992–1994), у сістэме Нацбанка ад галоўнага эканаміста да намесніка старшыні (1994—1997, 1998—2010), дарадцам міністра фінансаў (1997—1998), старшынёй праўлення «БПС-Сбербанка» (2010—2014). З 2014 — першы віцэ-прэм'ер. Жанаты, мае сына.



**«Вельмі важна для нас, каб мы перасталі ўсё мераць у далярах».**

Люты 2015.

# Павел Якубовіч

Галоўны рэдактар газеты «СБ. Беларусь сегодня». 23(22)

У адрозненне ад большасці дзяржаўных прапагандыстаў, Павел Якубовіч — таленавіты журналіст. І ягоны ўплыў грунтуецца не толькі на пасадзе кіраўніка прэзідэнцкай газеты, але і на інтэлектуальнай харызме.

Але сістэма і на яго накладае свае абмежаванні. Паводле даследаванняў інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта, па ахопе аўдыторыі «Советская Белоруссия» прайграе недзяржаўнай «Камсамольскай праўдзе», хоць і мае ў чатыры разы большы агульны наклад.


КІРЫЛА ХІЛЬКО

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1946 ва Унечы (Бранская вобласць, Расія). Закончыў Вышэйшую вайсковую вучэльню МУС і факультэт журналістыкі БДУ (1973). Працаваў у «Знамені юності», «Крыніцы», «Народнай газеце». Галоўны рэдактар газеты «СБ. Беларусь сегодня» (з 1995).

**«Калі помнік Леніну ўяўляе мастацкую каштоўнасць, навошта яго зносіць. Але помнік ахвярам палітычных рэпрэсій таксама павінен быць».**

Лістапад 2013.

# Андрэй Раўкоў

Міністр абароны.

«Я трэці раз мадэрнізую войска. Вось міністр абароны новы сядзіць, калі ў вас жаданне ёсць, ён вам расказа, як я іх шманаю і мучу бедных, што яны не радыя, што ў іх такі Галоўнакамандуючы. Я прыстасоўваю армію, каб яна магла нармальна адказаць. Я зрабіў высновы з украінскіх падзей», — сказаў А.Лукашэнка на прэс-канферэнцыі 29 студзеня.

Сёння, сапраўды, увага да войска з боку дзяржавы павышаная. І галоўная адказнасць цяпер кладзецца на плечы 47-гадовага міністра. Гэтае прызначэнне было даволі нечаканым, бо Раўкоў ніводнага дня да гэтага не адпрацаваў у Генштабе. Ён увесь час камандаваў на месцах, то ў Віцебску, то ў Барысаве. Таму такое высокае месца Раўкова хутчэй аванс, давер да ўплывовасці Міністэрства абароны. Асабістыя якасці ўласна міністра, магчыма, праявяцца крыху пазней.



КІРЫЛА ХІЛЬКО

**«Сёння армія, як ніколі, з'яўляецца гарантам далейшай стабільнасці».**

Снежань 2014.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1967 у вёсцы Равякі Бешанковіцкага раёна. Ва Узброеных Сілах з 1984. У 1984 годзе скончыў Мінскае суворaўскае вайсковае вучылішча, у 1988 годзе з адзнакай і залатым медалём — Маскоўскае вышэйшае агульнавайсковае каманднае вучылішча, у 1999 з адзнакай і залатым медалём — камандна-штабны факультэт Вайсковай акадэміі Рэспублікі Беларусь, у 2005 годзе з адзнакай — вайсковую акадэмію Генеральнага штаба Узброеных Сіл Расійскай Федэрацыі. Ад 2005 да 2012 гады займаў пасады камандзіра асобнай мабільнай брыгады, начальніка аператыўнага аддзела — намесніка начальніка штаба аператыўнага камандавання, начальніка штаба — першага намесніка камандуючага войскамі аператыўнага камандавання. Ад лістапада 2014 — міністр абароны.

# Лідзія Ярмошына

25(24)

Старшыня ЦВК.

Бабруйская юрыстка займае сваю высокую пасаду ўжо 18 гадоў. Так, як яна, не ўмее лічыць ніхто.

Старшыня ЦВК выходзіць на авансцэну толькі падчас прэзідэнцкіх выбараў. І сёлета якраз такі год.

У сваім катэджы старшыня ЦВК жыве адна. Маці засталася ў Бабруйску, шлюб распаўся, сын аддзяліўся... У выніку Лідзія Ярмошына — адзін з самых частых персанажаў свецкай хронікі. У свабодны ад выбараў час яна наведвае выставы і тэатры, а таксама разважае на старонках газет пра псіхалогію і кулінарыю, напрыклад, пра боршч. І пра тое, як возіць сыну катлеты.



КІРЫЛА ХІЛЬКО

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1953 у Слуцку. Скончыла юрфак Калінінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1975). Працавала юрканcультантам у Калінінградзе і Бабруйску (1975—1987), памочнікам раённага пракурора ў Калінінградзе (1987—1988). Кіраўнік юрыдычнай службы Бабруйскага гарвыканкама (1988—1996). Сябра ЦВК (1992—1996), старшыня ЦВК (з 1996). Разведзеная, мае сына.

**«Я даю рады сваім абавязкам так, як гэта задавальняе майго наймальніка, прэзідэнта Беларусі».**

Студзень 2015.

# Дзмітрый Лукашэнка

26(26)

Старшыня прэзідэнцкага спартыўнага клуба.

Палітычную будучыню Дзмітрыю не прагназуе, здаецца, ніхто. Але кожны чалавек, які мае кантакт з Аляксандрам Лукашэнкам, лічыцца ў Беларусі ўплывовым. Цікавымі выглядаюць і поспехі прэзідэнцкага спартыўнага клуба. Ягоныя партнёры — «Беларуськалій», «Трайпл», Velcom і іншыя прыбытковыя кампаніі. Але і само «некамерцыйнае дзяржаўна-грамадскае аб'яднанне» займаецца бізнесам. Прэзідэнцкі спартыўны клуб прадае за мяжу БелАЗы (кожны каштуе больш за $400 тысяч) і нават з'яўляецца суўласнікам расійскай кампаніі па сэрвісным абслугоўванні самазвалаў. У напаўзамарожаным стане застаюцца будаўнічыя праекты, а вось латарэйны бізнэс даволася саступіць Максіму Мірнаму.

Якую ролю ў праекце адыгрывае кіраўнічы талент самога Дзмітрыя? Рытарычнае пытанне. Пазітыўнасці ягонаму някідкаму вобразу дадаюць, аднак, адкрытая для людзей жонка і дочкі-разумніцы.




**Аб'ектыўка**

Нарадзіўся ў 1980. Вырас пад Шкловам. Скончыў факультэт міжнародных адносін БДУ, абараніўшы дыплом па тэме «Выступы беларускіх спартоўцаў на міжнароднай арэне». Кіраўнік прэзідэнцкага спартовага клуба. Жанаты, мае трох дзяцей.

**«Няздольных дзяцей не бывае. Проста не ўсе сябе знаходзяць».**

Снежань 2014.

# Сямён Шапіра

27(28)

Старшыня Мінскага аблвыканкама.

«Я прызначаў Шапіру. Ён мне кажа: ды вы што, Аляксандр Рыгоравіч! Я яму: а ты што маеш на ўвазе? Ён: я яўрэй, вас жа будуць крытыкаваць. Я кажу: ды якая розніца, хто ты», — расказваў Аляксандр Лукашэнка.

Прэтэнзій да Шапіры ў кіраўніка краіны няманого. Калі той і зменіць пасаду, то толькі каб пайсці на павышэнне. Ягоныя 54 гады ўспрымаюцца наменклатурай як час позняй маладосці. Шапіра можа ўзняцца аж да прэм'ера. Але наўрад ці вышэй — пятую графу мае на ўвазе і сам чыноўнік.

А калісьці Шапіра ўваходзіў у Аб'яднаную грамадзянскую партыю і лічыўся прыхільнікам рынкавай эканомікі. Часы змяняюцца, і цяпер ягонае імя асацыіруецца з пагромам гісторыкаў Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта.



**Аб'ектыўка**

Нар. у 1961 ў вёсцы Рэчань на Любаншчыне. Законьчыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі. Працаваў у калгасах Дзяржынскага раёна, пасля ў структуры Міністэрства сельскай гаспадаркі (1999—2004). Генеральны дырэктар агракамбіната «Дзяржынскі» (2004—2008), міністр сельскай гаспадаркі (2008—2010), старшыня Гродзенскага аблвыканкама (2010—2013), старшыня Мінскага аблвыканкама (з 2013). Жанаты, мае дачку.

# Усевалад Янчэўскі

28(48)

Памочнік прэзідэнта, начальнік Галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта.

Аднойчы Міхаіла Мясніковіча папрасілі назваць імёны чыноўнікаў, якія пераўзыходзяць сярэдні ўзровень. Першым прэм'ер-міністр назваў Усевалада Янчэўскага. «Чалавек, які ўмее генераваць ідэі і можа ўзначаліць той ці іншы напрамак работы». І Мясніковіч не адзіны, хто адзначае эрудыцыю Янчэўскага.

Сёння галоўны ідэолаг краіны таксама «сматрашчы» за ўсім Белнэтам. Але вось не пакідае ўражанне, што былы лідар БРСМ і галоўны рэдактар часопіса «Планета» ўжо крыху засядзеўся на пасадзе памочніка прэзідэнта, якая не дазваляе прадэманстраваць сябе ва ўсёй красе. Час адкрываць новыя далягляды?



BOBRUISK.BY

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1976 у Барысаве. Скончыў юрыдычны факультэт БДУ (1988). Быў актыўным сябрам перадвыбарчага штаба Станіслава Шушкевіча падчас выбараў у Вярхоўны Савет XIII склікання. У сярэдзіне 1990-х узначаліў пралукашэнкаўскую арганізацыю моладзі «Прамое дзеянне», якая перарасла ў Беларускі патрыятычны саюз моладзі, які потым зліўся з Беларускім саюзам моладзі ў БРСМ. Быў дэпутатам палаты прадстаўнікоў (1996—2000). Адзін з наймаладзейшых чыноўнікаў найвышэйшага эшалона.

**«У інтэрнэце павінна прысутнічаць наша ідэалогія, і прысутнічаць эфектыўна».**

Студзень 2010.



29(-)

# Аляксандр Мяжуеў

Дзяржаўны сакратар Рады бяспекі.

Рада бяспекі мае вельмі шырокія паўнамоцтвы. Напрыклад, у мірны час яна забяспечвае прававыя асновы дзейнасці ўсіх структур бяспекі, фарміраванне замежнай і ўнутранай палітыкі па зніжэнні ваеннай пагрозы, распрацоўку асноўных кірункаў вайсковай дактрыны. У ваенны час Рада бяспекі займаецца мабілізацыяй вайсковых структур, а таксама зацвярджае прапановы Міністэрства абароны.

Мяжуеў — вайсковец. Але сам у баявых дзеяннях удзелу не браў. Усе ягоныя медалі, звыш 20, за заслугі ў мірны час. Напрыклад, за ліквідацыю наступстваў урагану ў Брэсцкай вобласці. У Раду бяспекі Мяжуева выцягнулі з ціхай і соннай палаты прадстаўнікоў.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1959 у Ляхавічах. Скончыў Кіеўскае вышэйшае агульнавайсковае каманднае вучылішча, Вайсковую акадэмію імя М.В.Фрунзе ў Маскве; Вайсковую акадэмію Генеральнага штаба Узброеных сіл Расійскай Федэрацыі. Мае званне генерал-маёра. Узнагароджаны 20 медалямі, Ганаровай граматай нацыянальнага сходу. Жанаты, мае трох сыноў, унукаў.

**«У мяне заўсёды былі здаровыя амбіцыі. Я не люблю таптацца не месцы, заўсёды знаходжуся ў пошуку. Люблю «жывую» працу».**

Сакавік 2013.

# Андрэй Уцюрын

30(8)

Намеснік дзяржсакратара Рады бяспекі.

Уцюрыну 44 гады, для сённяшняй палітычнай эліты ён увогуле маладзён. Тым не менш, ажно 7 гадоў ён узначальваў Службу бяспекі прэзідэнта. Відавочна, што на сённяшняй пасадзе Уцюрын набіраецца патрэбнага для сябе досведу, каб у будучыні ўзначаліць КДБ, МУС, ААЦ ці іншае сілавое ведамства. У кар'ерных перспектывах гэтага чалавека сумнявацца не даводзіцца. Ён належыць да катэгорыі дзяцей савецкіх вайскоўцаў, якія ў сістэме Аляксандра Лукашэнкі займаюць многія ключавыя пазіцыі.

Уцюрын хоць і народжаны ў Расіі, але гадаваўся ў Беларусі, дзе ягоны бацька доўгі час узначальваў элітную вайсковую частку 3214.



**«Патрэбна ўзяць пад крыло фанацкі рух і пераарыентаваць яго ў пазітыўнае русла».**

Люты 2015.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1971 у Пензе. У 1992 скончыў Саратаўскае вышэйшае вайсковае камандное вучылішча МУС Расіі, а ў 2002 годзе — Акадэмію МУС Беларусі. Ад 1995 — у службе аховы Лукашэнкі. Узнагароджаны ордэнамі «За бездакорную службу» і «За службу Радзіме». Кіраўнік Службы аховы ад 2007 года. Ад 2014 — намеснік дзяржсакратара Рады бяспекі.

# Андрэй Шорац

31(-)

Старшыня Мінгарвыканкама.

На фоне нешчаслівага Мікалая Ладуцькі любы ягоны наступнік будзе выглядаць героем. У першыя месяцы працы Андрэй Шорац сапраўды фантаніраваў ідэямі. Што з іх удалося рэалізаваць? Гэта пабачым праз год.

**«Мінгарвыканкам адкрыты для прапаноў і гатовы разгледзець любыя ініцыятывы гараджан».**

Студзень 2015.



**Аб'ектыўка**

Нар. у 1973 у Віцебску. Скончыў Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны універсітэт (1995) і Акадэмію кіравання (1999). Працаваў на Віцебскім прыборабудаўнічым заводзе (1995—1997), у Беларускім патрыятычным саюзе моладзі (1997—1998), у Віцебскім аблспажыўсаюзе (1999—2002), у Віцебскім аблвыканкаме (2002—2010). Намеснік міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі (2010—2011), міністр ЖКГ (2011—2014). Старшыня Мінгарвыканкама (з 2014).

# Генадзь Давыдзька

32(-)

Старшыня Белтэлерадыёкампаніі.

«Міністру тэлебачання» ўдавалася выбіваць дадатковае фінансаванне, таму пад ягоным кіраўніцтвам Белтэлерадыёкампанія разраслася ў вялікі холдынг. Праўда, «Беларусь-1» усё ніяк не можа дагнаць АНТ у рэйтынгах папулярнасці.

Затое сам кіраўнік БТ штотыдзень выступае ў эфіры.

Меркаванне Давыдзькі пастаяннае ў сваёй зменлівасці. То ён выкрывае шавінізм Расіі, то ўсхваляе расейцаў, якія адстойваюць славянскія каштоўнасці ў змаганні з «украінскімі нацыстамі». Нязменная толькі зацятая зацыкленасць на пошуку ворагаў унутры краіны. Давыдзька застаўся, бадай, апошнім з прапагандыстаў, якія па-ранейшаму працуюць у такім стылі.

Былы сябар тэлевізійшчыка Уладзімір Някляеў назваў яго «пластылінавым чалавекам».



**Аб'ектыўка**

Нар. у 1955 у вёсцы Папоўка Сенненскага раёна. Скончыў Далёкаўсходні педагагічны інстытут мастацтваў (1977), Беларускую акадэмію мастацтваў (1991). Іграў у Арэнбургскім і Магілёўскім абласных драмтэатрах, у тэатры імя Янкі Купалы. Дырэктар тэатра імя Янкі Купалы (1997—2004), дэпутат палаты прадстаўнікоў (2004—2012). Старшыня Белтэлерадыёкампаніі (з 2010). Жанаты, мае дачку.

**«Слава героям!» такі ж вокліч, як «Хайль Гітлер!»**

Кастрычнік 2014.

# Аляксандр Якабсон

33(12)

Памочнік прэзідэнта, галоўны інспектар па Мінску

Летась у Якабсона памерла жонка, амаль адразу пасля гэтага галоўнага кантралёра краіны перавялі на больш сціплую пасаду. За доўгія гады на кіраўнічых пасадах Якабсон абзавёўся не толькі досведам, але і карыснымі знаёмствамі.

Якабсон — карэнны гараджанін. У час працы старшынёй Гомельскага аблвыканкама ён прызнаваўся, што не заўсёды разумеў спецыфіку працы на вёсцы. Якабсона лічаць добрым выканаўцам, але не генератарам ідэяў.

Сын чыноўніка працуе намеснікам дырэктара «Беларуснафта-Нафтахімпраект», раней ён узначальваў Мінскае абласное аддзяленне кампаніі.




**«Ідэалагічная праца ў краіне пастаўлена дастаткова роўна, сістэмна, пераканаўча».**

Верасень 2014.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1951 у Гомелі. Скончыў Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту, Мінскі інстытут паліталогіі і сацыяльнага кіравання. Служыў у войску. Ад 1975 працаваў у «Гомельпрамбудзе» — ад майстра да галоўнага інжынера. У 1986—1996 — старшыня Светлагорскага гарвыканкама. Дэпутат Вярхоўнага Савета (1990—1996), палаты прадстаўнікоў (1996—2000). Старшыня Гомельскага аблвыканкама ў 2001—2010. У 2010 прызначаны кіраўніком КДК, у 2014 — памочнікам прэзідэнта, галоўным інспектарам па Мінску.

# Леанід Мальцаў

34(23)

Старшыня памежнага камітэта.

Тыя, хто ведае Мальцава асабіста, не адгукаюцца пра яго кепскім словам. «Гэта спецыяліст, а не агітпрапавец», — пісаў у «НН» былы супрацоўнік Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Іскрык. «Адзіным перадавым афіцэрам беларускага войска» называў Мальцава генерал Валерый Фралоў (ужо нябожчык).

У Мальцава ўжо той узрост, калі трэба рыхтавацца да пенсіі. Але нечакана вызвалілася пасада кіраўніка Памежнага камітэта, калі з ёй не справіўся малады Аляксандр Боечка. Мальцаву даручылі навесці парадак у гэтым ведамстве.

Аднойчы Лукашэнка публічна зганьбіў Мальцава, калі абвінаваціў яго ў п'янстве падчас выступу ў Медуніверсітэце ў 1996. Хаця ёсць меркаванне, што кіраўнік дзяржавы перастрахаваўся, каб Мальцаў не падтрымаў прыхільнікаў дэмакратыі. Пасля гэтага была адстаўка, а яшчэ пазней — вяртанне. Мальцаў прайшоў амаль праз усе ключавыя сілавыя пасады ў краіны. Непрацяглы час ён нават узначальваў КДБ.

А яшчэ Мальцаў — кавалер адразу чатырох беларускіх ордэнаў, больш няма ні ў кога.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1949 у Слонімскім раёне. Скончыў Мінскае суворАўскае вучылішча (1967), Кіеўскае вышэйшае камандное вучылішча (1971), Вайсковую акадэмію імя Фрунзе (1979), Вайсковую акадэмію Генеральнага штаба (1992). Генерал-палкоўнік. Міністр абароны (1995—1996, 2001—2009). Дзяржсакратар Рады бяспекі (2009—2013). Старшыня Памежнага камітэта — ад 2013 года.



**«Вы самі бачыце, што мы вымушаны ўмацоўваць мяжу з Украінай па зразумелых прычынах».**

Красавік 2014.

ВІРТУАЛЬНЫ БРЭСТ

# Сяргей Гурулёў

Старшыня Вайскова-прамысловага камітэта.

Беларускі ВПК стаіць перад новым выклікамі. Не так даўно Сяргей Гурулёў паведаміў, што сёлета будуць паказаны найноўшыя «ўзоры пэўных сродкаў агнявога паражэння розная далёкасці». Усе — беларускай вытворчасці. Цяпер эксперты гадаюць, якімі ж навінкамі парадуе абаронны сектар.

Сярод удалых прыкладаў працы Вайскова-прамысловага камітэта адзначаюць супрацьтанкавы комплекс «Шэршань». Цяпер беларускаму лідару хацелася б атрымаць уласныя эфектыўныя ўстаноўкі супрацьракетнай абароны і аператыўна-тактычныя ракетныя комплексы. Ідзе гаворка і пра стварэнне сваёй авіявытворчасці.

Варта таксама адзначыць, што сярод кіраўніцтва Вайскова-прамысловага комплекса толькі зусім нядаўна з’явіўся ўраджэнец Беларусі Дзмітрый Пантус, усе астатнія нарадзіліся ў Расіі ці Украіне.

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1953 у г.п. Алавяная Чыцінскай вобласці (Расія). Генерал-лейтэнант (2001). Скончыў Благавешчанскае вышэйшае танкавае каманднае вучылішча імя Мерацкова (1974), Вайсковую акадэмію бранятанкавых войскаў імя Маліноўскага, Вайсковую акадэмію Генштаба Узброеных Сіл Расійскай Федэрацыі (1999). З 1986 у Беларускай вайсковай акрузе. З 1997 начальнік штаба — намеснік камандзіра, з 2000 года камандзір 28-га армейскага корпуса. У 2001 быў начальнікам Галоўнага штаба, з канца 2001-га — начальнік Генеральнага штаба Узброеных Сіл — першы намеснік міністра абароны Рэспублікі Беларусь. Ад 2009 — старшыня Вайскова-прамысловага камітэта.

35(54)



БЕЛТА

**«Беларусь плануе нарошчваць групіроўку касмічных спадарожнікаў».**

Студзень 2014.

# Аляксандр Машэнскі

36(56)

Уласнік кампаній «Санта-Брэмар» і «Савушкаў прадукт».

Галоўны бізнэсмен Брэстчыны прайшоў па лязе ў 2012-м, калі ягонае імя стаяла наступным у спісе «кашалькоў Лукашэнкі», супраць якіх меркавалася ўводзіць санкцыі Еўрасаюза. Для Машэнскага, які займаецца пастаўкамі рыбы з Захаду, гэта магло стаць непрыемным ударам. Але абышлося. Неўзабаве Машэнскі набыў завод у Падмаскоўі. А дзякуючы яшчэ забароне на імпарт еўрапейскай прадукцыі ў Расіі, павялічыў долю на рынку ўсходняга суседа.

Рыбны бізнэс быў заснаваны бацькам мільянера, Міхаілам Машэнскім. Аляксандр здолеў разгарнуць яго, набыўшы малочную вытворчасць. «Савушкаў» лідзіруе на рынку, хоць утварыць на ягонай базе агульнабеларускі холдынг не ўдалося. Цяпер брэсцкае малако скарае еўрапейскі рынак, атрымаўшы патрэбныя сертыфікаты якасці.



**Аб’ектыўка**

Нар. у 1970 у Брэсце. Скончыў механіка-матэматычны факультэт БДУ. Уласнік кампаній «Санта-Брэмар» і «Савушкаў прадукт». Старшыня Беларускай федэрацыі веславання. Ганаровы консул Ісландыі ў Беларусі. Жанаты, мае дзвюх дачок.

**«Думаю, Беларусь вернецца ў Еўропу разам з Расіяй».**

Жнівень 2014.

# Міхаіл Русы

Віцэ-прэм’ер.

Міхаіл Русы ўпершыню з’явіўся ва ўрадзе яшчэ ў 1994-м. Яго перакідвалі з пасады на пасаду, было і ганебнае звальненне за злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі.

Ніякіх рэформаў віцэ-прэм’ер не прапануе, проста робіць сваю работу. Паколькі летась ураджай быў добры, то і Русы ў бясьпецы. А паколькі сельская гаспадарка — важная галіна эканомікі, то і ўплыў мае.

37(-)



**Аб’ектыўка**

Нар. у 1954 у вёсцы Вароніна Жыткавіцкага раёна. Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1977), Мінскую вышэйшую партыйную школу (1989). Працаваў у калгасе імя Леніна Жыткавіцкага раёна (1977—1983). Начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі Кармянскага райвыканкама (1983—1985). На партыйнай службе ў Карме і Стоўбцах (1985—1991). Старшыня Камітэта па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванні (1991—1994). Міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя (1994—2001), міністр сельскай гаспадаркі і харчавання (2001-2003 і 2010—2012). Кіраўнік аддзялення пасольства Беларусі ў Санкт-Пецярбургу (2003—2004). Дэпутат палаты прадстаўнікоў (2004—2012). Віцэ-прэм’ер (з 2012). Жанаты. Мае дзвюх дачок.

**«Беларускі селянін мае прасторны дом, замежны легкавік і трактар, а таксама адпачывае з сям’ёй на моры».**

Лістапад 2012.

# Уладзімір Амарын

38(-)

Міністр фінансаў.

Міністэрства фінансаў — строгая іерархічная ўстанова, у якую прыходзяць аднойчы і назаўсёды. Амарын у ведамстве ўжо больш за тры дзесяцігоддзі, столькі ж працаваў і ягоны папярэднік Харкавец.

Першага намесніка Амарына, 37-гадовага Максіма Ермаловіча, называюць больш перспектыўным фінансістам. Але ў Беларусі апошнім часам міністры фінансаў сыходзяць у адстаўку толькі па стане здароўя.

Абавязак Амарына — сачыць, каб выдаткі бюджэту не перавышалі даходы. Фінансы любяць цішыню: за паўгода міністр ні разу не выказаў сваю пазіцыю па спрэчных пытаннях.

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1961 у Мінску. Скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі (1983) і Акадэмію кіравання (2006). З 1983 працуе ў фінансавай сістэме Беларусі. Першы намеснік міністра фінансаў (2008—2014), міністр фінансаў (з 2014).

**«Мы разумеем, што кошт нафты ніжэйшы за закладзены ў праекце бюджэту. Але зараз ніхто не можа сказаць, што будзе ў 2015».**

Снежань 2014.

# Сяргей Румас

Старшыня праўлення Банка развіцця.

Адзін з нямногіх беларускіх чыноўнікаў, якія выклікаюць пазітыўнае стаўленне ў грамадскасці. Шматдзетны бацька, разумны, абаяльны... Але Румасу не хапае смеласці і амбіцый — усё ж сам адмовіўся ад высокай пасады віцэ-прэм’ера.

Стварыць Банк развіцця заклікаў Міжнародны валютны фонд. Дзяржаўныя праграмы псавалі справаздачнасць «Беларусбанку» і іншым банкам, таму МВФ раіў «павесіць» ільготныя крэдыты на іншую фінансавую ўстанову. Банк развіцця задумваўся як установа, праз якую ішлі б бюджэтныя грошы. Але Румас і тут дасягнуў эфектыўнасці. У выніку ягоны Банк развіцця ўваходзіць у тройку самых прыбытковых кампаній краіны.

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1969 у Гомелі. Скончыў Яраслаўскае вышэйшае вайсковае фінансавае вучылішча (1990) і Акадэмію кіравання (1995). Працаваў у Дзяржбанку СССР, камерцыйных банках Беларусі. Намеснік старшыні праўлення «Беларусбанка» (2002—2005), старшыня праўлення «Белаграпрамбанка» (2005—2010), віцэ-прэм’ер (2010—2012), старшыня праўлення Банка развіцця (з 2012). Старшыня Беларускай федэрацыі футбола. Жанаты, чацвёра сыноў.

39(59)



КІРЫЛА ХІЛЬКО

**«Расія не мела права абмяжоўваць пастаўкі прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў на экспарт... Гэта нельга пакідаць без увагі».**

Снежань 2014.

# Павел (свецкае імя Георгій Панамароў)

Прадстаяцель Беларускай праваслаўнай царквы, Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі.

Хворага Мітрапаліта Філарэта адправілі на адпачынак, а замест яго прыслалі епіскапа з Разані Паўла. Гэта абурыла многіх: РПЦ зноў паставіла ў Мінск не беларуса. А плюс да ўсяго інтэрнэт адразу абляцела інтэрв'ю Паўла, дзе ён грaзіўся амерыканцам «адкрыць чарнобыльскі кранік». Вось такія першыя ўражанні былі пра іерарха.

Напрыканцы мінулага года епархіяльны сход ставіў пытанне аб самакіраванасці БПЦ. Тэму падымаў сам Мітрапаліт. Самакіраванасць давала б магчымасць унутры Беларусі выбіраць новага кіраўніка царквы. Дэлегаты сходу падтрымалі такую прапанову. Аднак літаральна праз пару тыдняў Павел паведаміў, што гэтая прапанова адхіленая.

Мітрапаліт Павел па-ранейшаму не памяняў грамадзянства (у яго расійскае), а таксама не выступае публічна па-беларуску.

**«Я як той цюцька: усё разумею, але сказаць не магу».**

Пра беларускую мову, студзень 2015.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1952 у Карагандзе ў сям'і рабочых. Адслужыў у арміі, трохі папрацаваў слесарам. У 1973—1976 вучыўся ў Маскоўскай духоўнай семінарыі. У 1980 скончыў Маскоўскую духоўную акадэмію са ступенню кандыдата багаслоўя. Ад 1979 года працаваў, як і Філарэт, у Аддзеле замежных царкоўных зносінаў. Ад 1992 да 1999 быў прызначаны епіскапам Зарайскім, які кіраваў патрыяршымі прыходамі ў ЗША і часова ў Канадзе. У 1999 годзе прызначаны епіскапам Венскім і Аўстрыйскім. У 2001 годзе ўзведзены ў сан архіепіскапа з тытулам Венскі і Будапешцкі. У 2011 стаў мітрапалітам Разанскім. У снежні 2013 пераведзены прадстаяцелем БПЦ.



40(-)

Кірыла Хілько

# Юрый Зісер



41(63)

Сяргей Гудзілін

Заснавальнік партала Tut.by.

Штодня галоўную старонку самага папулярнага беларускага сайта наведвае каля 900 тысяч чалавек. Tut.by — несумненны лідар у інфармацыйнай прасторы.

Сам Юрый Зісер даверыў аператыўнае кіраўніцтва бізнэсам сваім намеснікам і адышоў ад справаў. Ён працягвае займацца самаадукацыяй, а таксама падарожнічае па свеце.

**«Расія — менавіта такая краіна, у якой рэгулярна і беспакарана адбываюцца рытуальныя забойствы па палітычных і этнічных матывах. Краіна, «патрыёты» якой штодзень заклікаюць да расправы з тымі, хто мысліць «іначай», чым улада».**

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1960 у Львове. Скончыў Паўночна-Заходні політэхнічны інстытут у Пецярбургу. Працаваў інжынерам-праграмістам у Львове (1982—1986), інжынерам у НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі ў Мінску (1986—1990), у кааператыве ў Расіі (1990—1991). Генеральны дырэктар і ўласнік УП «Надзейныя праграмы» (з 1992).

# Мікалай Лукашэнка

42(43)

Малодшы сын кіраўніка краіны.

Дзіця па-ранейшаму з'яўляецца разам з бацькам падчас афіцыйных сустрэч і замежных візітаў. То ён ходзіць па Палацы Незалежнасці падчас перамоваў па Украіне, то гуляе ў хакей супраць зборнай ветэранаў ААЭ. А на навагоднія святы па тэлебачанні паказалі, як Коля грае на піяніна.

Лукашэнка-старэйшы па-ранейшаму жартуе, што пераемнікам можа стаць толькі ягонае малодшае дзіця. Але, як вядома, у кожным жарце...



**Аб'ектыўка**

Нар. у 2004. Вучыцца ў элітнай школе ў Астрашыцкім Гарадку.

**«Яго ўласная маці бачыць яго не часцей, можа быць, чым іншыя па тэлебачанні... Гэта мой сын, які вырас у мяне на руках».**

Аляксандр Лукашэнка ў інтэрв'ю Грыгорыю Ёфэ.

# Рыгор Кісель



43(36)

Генеральны дырэктар АНТ.

Калі падчас прэс-канферэнцыі Аляксандр Лукашэнка раптам узгадаў: «А Кісель такі беларускамоўны ў нас, ён піша мне на беларускай мове», — больш за ўсё здзівіўся сам Рыгор Кісель. Усё ж магілёўскі журналіст ніколі не вылучаўся піэтэтам да беларускай мовы.

Ягонае АНТ спрэс рускамоўнае, за выняткам святочных канцэртаў. Большасць праграм тэлеканала ўзятыя з Расіі. Рэтрансляцыя расійскіх серыялаў і забаўляльных праграм дазваляе Кісялю захоўваць за АНТ статус самага папулярнага канала Беларусі.

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1955 у вёсцы Здудзічы Светлагорскага раёна. Скончыў журфак БДУ (1979). Працаваў у газеце «Магілёўская праўда» (1979—1987), у Магілёўскім абкаме КПБ (1987—1990), рэдактарам газеты «Магілёўскія ведамасці» (1990–1994). Старшыня Белтэлерадыёкампаніі (1994—2000), пасол у Румыніі (2000—2002), старшыня праўлення АНТ (з 2002). Удавец, мае двух дзяцей.

**«Займаюся бегам для сябе, а не напаказ. Жыву ў Драздах, бегаю ў парку там жа. У сярэднім 10 км. Магу 15 і 20 — як настрой і час дазваляюць».**

# Уладзімір Зіноўскі

Міністр эканомікі.

Гэта той выпадак, калі чалавек цалкам быў на сваім месцы. Уладзімір Зіноўскі прысвяціў сваё жыццё статыстыцы. Белстат неаднаразова змяняў форму: камітэт, пасля міністэрства, зноў камітэт... І толькі Зіноўскі заставаўся ў крэсле кіраўніка.

Да яго адміністратарскіх навыкаў няма пытанняў. Але апрацоўваць лічбы і будаваць эканоміку — розныя рэчы. Ці чыноўнік дасць рады новай задачы?



44(-)

**Аб'ектыўка**

Нар. у 1955 у Ялізаве Асіповіцкага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі (1978) і Акадэмію кіравання (1993). Працаваў у Цэнтральным статыстычным упраўленні БССР (1981—1986), статыстычным упраўленні Мінскай вобласці (1986—1989), апараце Савета міністраў (1989—1992). Першы намеснік міністра статыстыкі і аналізу (1992—1998), міністр статыстыкі і аналізу, старшыня Белстата (1998—2014). Міністр эканомікі (з 2014).

# Мікола Статкевіч

45(58)

Палітвязень, экс-кандыдат у прэзідэнты.

Статкевіч ужо пяты год у зняволенні. Палітык прынцыпова не піша прашэнняў аб памілаванні. Падпалкоўнік запасу Статкевіч быў найбольш жорсткім крытыкам Лукашэнкі падчас кампаніі 2010 года. Заўсёды беларускамоўны, нашчадак старажытнага шляхецкага роду. Сёння ад лёсу Статкевіча ў вялікай ступені залежыць перспектыва развіцця беларуска-еўрапейскіх адносін. Апазіцыя разглядае сярод варыянтаў на наступныя выбары вылучэнне Статкевіча ў якасці адзінага, а ўлада няхай рэагуе як хоча. Сам Статкевіч — не супраць.

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1956 у вёсцы Лядна Слуцкага раёна. Скончыў Мінскае вышэйшае інжынернае зенітна-ракетнае вучылішча (МВІЗРВ) СПА. Абараніў кандыдацкую дысертацыю і выкладаў у МВІЗРВ. Кандыдат тэхнічных навук, падпалкоўнік запасу. 20 жніўня 1991 публічна выступіў супраць путчу ў Маскве. Тады ж абвясціў аб стварэнні Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Мікалай Статкевіч быў адным з кандыдатаў у прэзідэнты на выбарах у 2010. Яго арыштавалі ў дзень Плошчы — 19 снежня 2010. Асуджаны на 5,5 года зняволення. У адрозненне ад некаторых іншых кандыдатаў, не пісаў прашэння аб вызваленні.



**«Прашэння аб памілаванні не дачакаюцца, я індульгенцыямі не гандлюю».**

З ліста на волю, люты 2014.

# Наталля Радзіна

Галоўная рэдактарка сайта «Хартыя-97».

Рэдактарка самага папулярнага апазіцыйнага сайта ўжо амаль чатыры гады жыве ў эміграцыі, куды яна была вымушана з’ехаць пасля пагрому зімой 2010—2011. Дзякуючы таленту і чуццю Радзінай, «Хартыя» нічога не згубіла праз выезд за мяжу. Наадварот, у эміграцыі сайт стаў яшчэ вастрэйшым. «Хартыю» многія ганяць за радыкалізм, але чытаюць. Сайт спрабавалі блакаваць, але з Беларусі ён усё адно даступны. Без умелай рэдактарскай рукі Радзінай такі поспех наўрад ці быў бы магчымы.



LABADZENKA.BY

46(87)

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1979 у Кобрыне. З 1979 па 1985 год пражывала ў Польшчы, дзе служыў бацька. У 2001 скончыла факультэт журналістыкі БДУ. З 1997 года працавала ў такіх незалежных выданнях, як газеты «Імя», «Народная воля», «Навіны», «Наша свабода». З 2001 — галоўная рэдактарка сайта «Хартыя-97». 19 снежня 2010 была арыштаваная па абвінавачанні ў арганізацыі «масавых беспарадкаў» у дзень прэзідэнцкіх выбараў. Правяла 1,5 месяца ў турме КДБ. У красавіку 2011, напярэдадні суду, уцякла за мяжу, падмануўшы КДБ. У верасні 2012 адкрыла офіс рэдакцыі сайта «Хартыя-97» у Варшаве.

# Павел Тапузідзіс

47(93)



**Аб’ектыўка**

Нар. у 1956 у Грузіі. Мае грэчаскія карані. Пачаў бізнэс на вытворчасці цацачных самалёцікаў. У Беларусі арганізаваў кааператыў па выпуску пахавальных вянкоў, пасля заняўся вытворчасцю цыгарэт. Уласнік кампаніі «Тытунь-Інвест», сетак гіпермаркетаў «Карона» і «Карона-Тэхна», гатэля «Робінсан Клаб» з верталётным клубам. Жанаты, мае сына.

Уласнік «Тытунь-Інвест» і «Кароны».

«Тытунь-Інвест» — адзіная прыватная кампанія на цыгарэтным рынку. Бізнэс асаблівы, рашэнне аб тым, каб даць дазвол Тапузідзісу, прымалася на найвышэйшым узроўні. Казалі, што прычынай лаяльнага стаўлення было знаёмства бізнэсмена з памочнікам прэзідэнта Сяргеем Ткачовым. Пра многае кажа той факт, што падчас выбараў-2010 мільянер быў старшынёй камісіі на адным з мінскіх выбарчых участкаў.

Тапузідзіс мае чатыры гіпермаркеты ў Мінску і яшчэ 6 — у іншых буйных гарадах. Летась бізнэсмен меў асабістую сустрэчу з Лукашэнкам, той ухваліў будаўніцтва сеткі са 130 «Каронаў».

**«Каб вы ведалі, як я люблю будаваць гіпермаркеты, якое задавальненне я атрымліваю ад самога працэсу будаўніцтва!»**

2012

# Алег Хусаенаў

48(77)



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1964 у Кустанаі (Казахстан). Скончыў Маскоўскі інстытут інжынераў грамадзянскай авіяцыі. Суўладальнік «Атлант-М» і «МТБанка». Жанаты, пяцёра дзяцей.

Кіраўнік кампаніі «Зубр-капітал», акцыянер «МТБанка».

Алегу Хусаенаву стала сумна проста зарабляць грошы. Паспяховы менеджар, які стаў мільянерам дзякуючы продажам аўтамабіляў, першым у Беларусі стварыў фонд прамых інвестыцый.

Бізнэсмен абірае перспектыўныя кампаніі ў розных галінах эканомікі і ўкладае ў іх грошы інвестараў, якія давераць яму распараджацца імі. Хусаенава цікавяць праграмісцкія канторы, вытворчасць камп’ютарнай тэхнікі, а таксама стварэнне спажывецкіх тавараў.

А яшчэ ён знаны мецэнат. Прыватная мастацкая калекцыя Хусаенава, бадай, найбуйнейшая ў Беларусі.

# Валерый Міцкевіч

49(-)

Намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта.

Сціплы юрыст з Ліды ўжо шосты год працуе ў Адміністрацыі прэзідэнта. У абавязкі Міцкевіча ўваходзіць многа ці мала, але і маніторынг працы чыноўнікаў (найперш звароты грамадзян і адказы на іх), маніторынг па абгрунтаванні росту цэн, ён узначальвае таксама камісію па пытаннях памілавання. Паўнамоцтвы не малыя. Але ці на ўсё здольны паўплываць чыноўнік? Многія эксперты лічаць, што паўнамоцтвы Міцкевіча распаўсюджваюцца пераважна на тэхнічныя пытанні.



**Аб’ектыўка**

Нар. у 1964 у Лідзе. У 1989 скончыў БДУ. У 1989—1991 быў стажорам суддзі, выканаўцам абавязкаў суддзі суда Мінскага раёна. У 1991—2001 — суддзя, старшыня суда Мінскага раёна і Заслаўя. У 2001—2005 — намеснік міністра юстыцыі, член ЦВК. У 2005—2009 — дырэктар Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў. Намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта ад чэрвеня 2009.

**«Чыноўнік — гэта прадстаўнік дзяржавы».**

Люты 2011.

# Аляксей Дзербін

50(-)

Дырэктар Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта.

Гэты чалавек — вялікая загадка. Ён быў актывістам уніяцкай царквы, журналістам недзяржаўнага выдання, сябрам многіх беларускамоўных грамадскіх і культурных дзеячаў. Але яго новая пасада вымусіла задумацца: а ў якой якасці ён усё гэта рабіў?

Пры гэтым выпускнікі юрфака БДУ называюць яго сярод найлепшых выкладчыкаў. Ягоная біяграфія паказвае, што ён служыў у органах МУС, Следчага камітэта, КДБ.



БЕЛТА

**Аб’ектыўка**

Нар. у 1975 у Мінску. У 1997 скончыў юрыдычны факультэт БДУ. Кандыдат юрыдычных навук, дацэнт.

Працаваў у газеце «Беларускій рынок», ДУ «Міжбанкавая валютная біржа», ААТ «Белгазпрамбанк», БДУ, БДЭУ, Нацыянальным цэнтры заканадаўства і прававых даследаванняў Рэспублікі Беларусь, Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Праходзіў службу ў органах унутраных спраў, Следчым камітэце, Камітэце дзяржаўнай бяспекі. Ад ліпеня 2014 — дырэктар ІАЦ.

# Другая паўсотня: Ад Калініна да Цэнцера

Стракатасць людзей і пасадаў у другой паўсотні значна цікавейшая. У першай жа ў асноўным прадстаўленыя чыноўнікі і шматлікія сілавікі. У залежнасці часам ад рангу, а не ад заслуг ці таленту.

А тут табе і жывых людзей трохі ёсць: журналістаў, палітыкаў, музыкаў, пісьменнікаў. Ёсць спартоўцы, прадпрымальнікі, кіраўнікі.

Што тычыцца чыноўнікаў, то, відаць, нядаўні час прызначэнняў не дазволілі **Наталлі Качанавай** (82-я), **Міхаілу Жураўкову** (84-ы), **Ігару Бузоўскаму** (85-ы) заняць вышэйшыя месцы. Ужо сёння можна прадказаць будучы рост гэтых асобаў.

Тое самае можна сказаць і пра старшынь аблвыканкамаў. Але з адной агаворкай: сярод новых губернатараў не бачыцца яркіх лідараў і кіраўнікоў, апроч Сямёна Шапіры. Пры ўсіх прэтэнзіях, але Батура, Косінец, Якабсон — гэта былі асобы. Што выйдзе талкова з новых кіраўнікоў абласцей, пакуль ніхто не ведае, таму такія нізкія пазіцыі.



Юрый Караеў.



Фёдар Поўны.

Варта адзначыць, што, нягледзячы на адстаўкі, пазіцыі ў сотні змаглі захаваць Герой (ва ўсіх сэнсах) Беларусі, банкір **Пятро Пракаповіч** (56-ы) і былы прэм'ер-міністр **Сяргей Сідорскі** (96-ы). Падзенне колішняга сябра Лукашэнкі **Уладзіміра Канаплёва** (58-ы) найперш можна звязаць з судовым працэсам супраць яго. Хоць Канаплёва і не пасадзілі, але па іміджы ўдарылі моцна.

А **Ігару Рачкоўскаму** (72-і) пакуль што так і не прабачылі «плюшавы дэсант». Але перавялі з НАК у Федэрацыю хакея.

**Уладзімір Пефціеў** (57-ы) за гэтыя два гады прадаў бізнэс. А з ім — і статус самага багатага чалавека краіны.

Звяртае на сябе ўвагу высокае месца намесніцы міністра гандлю **Ірыны Наркевіч** (62-я). Яе асоба стала вядомай краіне падчас валютнага крызісу ў снежні-студзені.



Ірына Наркевіч.



Анатоль Лябедзька.

Менавіта Наркевіч сваёй цвёрдай рукой выпісвала пастановы аб закрыцці крамаў, якія падвышалі цэны ці прывязвалі іх да даляра.

Высокае месца пісьменніцы **Святланы Алексіевіч** (60-я) тлумачыцца тым, што апошнія гады яна ўвесь час прысутнічае ў спісах імаверных кандыдатаў на Нобелеўскую прэмію па літаратуры. Сёлета Алексіевіч зноў сярод фаварытаў.

Побач ідуць геніяльныя прадпрымальнікі-айцішнікі **Аркадзь Добкін** (80-ы) і **Віктар Кіслы** (81-ы), якія змаглі стварыць свае невялікія бізнэс-імперыі ў Мінску і за мяжой.

Сярод сілавікоў варта адзначыць кіраўніка Унутраных войскаў **Юрыя Караева** (98-ы). Мабыць, ён проста не так часта фігуруе на тэлеэкранах, таму аказаўся ў нізе спісу.

У беларускага спорту на сёння жаночае аблічча **Вікторыі Азаранкі** (59-я) і **Дар'і Домрачавай** (99-я).

А музыку рэпрэзентуе адзін **Міхалок** (64-ы), які пасля распаду «Ляпіса Трубяцкога» згубіў некалькі пазіцый.



Віктар Кіслы.



Святлана Алексіевіч.



Аляксандр Цэнцер.



Дар'я Домрачава.

## Дзе нарадзіліся ўплывовыя беларусы?




Расія — 9

Украіна — 4

Казахстан — 3

Грузія — 1

Германія — 1

Месцы нараджэння 6 асобаў невядомыя.

# Расіяніна, які фатаграфаваў адміністрацыйныя будынкі ў Беларусі, дапыталі ў КДБ на паліграфе

Не так даўно ў Беларусі пачалі забіраць у міліцыю **за фатаграфаванне адміністратыўных будынкаў**. Прычынай гэтага, тлумачылі ў сілавых структурах, стаў выпадак з расійскім турыстам на Гомельшчыне. Ён расказаў карэспандэнту «НН» пра тое, што з ім здарылася.

Аляксей Калеснічэнка — навуковы супрацоўнік Геалагічнага інстытута Расійскай АН, кандыдат геолага-мінералагічных навук. Ён сцвярджае, што яго ныя захапленні — савецкая авіяцыя і падарожжы. Вось у лютым ён выправіўся ў Беларусь і Украіну.

«У Беларусі я бываў не аднойчы. Гэтым разам я заехаў з поўначы, праз Полацк трапіў у Мінск, затым накіраваўся ў Гродна, Свіслач, Баранавічы, Ляхавічы, Бабруйск і Гомель. З Гомеля на два дні ездзіў у Кіеў», — расказвае Калеснічэнка. 23 лютага Аляксей прыехаў з Кіева ў Беларусь. У гэты ж дзень яго і затрымалі.

«А 4-й раніцы я цягнікам прыехаў у Гомель. Пагуляў па цэнтры гадзіны паўтары, пасядзеў у кавярні да яе закрыцця а 6 раніцы, з'еў два з пяці бутэрбродаў, якія напярэдадні мне падрыхтаваў сябар у Кіеве, і мяне панесла далей. Найбліжэйшым буйным горадам на шляху быў Лоеў, за 100 км на поўдзень ад Гомеля. Наступным горадам на маім турыстычным шляху мусіў стаць Брагін, які раней уваходзіў у зону адчужэння, але лёс склаўся інакш», — расказвае Аляксей.

У Лоеве ён фатаграфаваў «усё запар». У аб'ектыў камеры Аляксея трапіла і Лоеўскае аддзяленне ўнутраных спраў.

«Да мяне падышлі двое міліцыянтаў і папрасілі паказаць пашпарт. Пабачыўшы расійскі пашпарт, прапанавалі прайсці ў аддзяленне. Я прайшоў, мяне прабілі па базе звестак і быццам бы гатовы былі ўжо адпусціць, але ўзнікла неабходнасць пагаварыць з начальнікам АУС.

Чакаць яго прыйшлося 3,5 гадзіны. Праз некаторы час пасля таго, як ён прыехаў, мяне праводзілі ў яго кабінет, і пачалася размова. «Навошта прыехалі, колькі дзён знаходзіцеся ў Беларусі, навошта ездзілі ва Украіну, у якіх гарадах былі?» — гэта каля 2% пытанняў, якія ён мне задаў хвілін за сорак знаходжання ў яго кабінеце», — апісвае Калеснічэнка.

На камеры-«мыльніцы» Аляксея, акрамя здымкаў Лоеўскага АУС, знайшліся і здымкі вакзалаў, аэрапортаў, самалётаў. Аляксей сцвярджае, што захапляецца авіяцыяй, з'яўляецца валанцёрам у музеі авіяцыі ў Моніна і бярэ ўдзел у аднаўленні савецкага лайнера Ту-144.



Пасля з Аляксеем вырашылі пагутарыць супрацоўнікі мясцовага аддзялення КДБ. Яны зладзілі некалькі допытаў — адзін нават, па словах Аляксея, з ужываннем дэтэктара хлусні.

Калеснічэнка кажа, што супрацоўнікі КДБ так і не дамагліся ад яго нічога і аддалі назад міліцыянтам. А тыя склалі пратакол за нецэнзурную лаянку ў грамадскім месцы, і ў выніку Аляксея асудзілі на 10 сутак па атрыкуле 17.1 АК Беларусі. На волю ён выйшаў 5 сакавіка.

Аляксей хацеў паскардзіцца на незаконнае затрыманне, але не ведае, ці будзе гэта рабіць: «У ізалятары сукамернік параіў напісаць заяву ў генпракуратуру ў Расіі, але, па-першае, у мяне няма копіі прысуду, а па-другое, калі справа пойдзе, то прызначаць суд у Гомелі і мне давядзецца туды ехаць, і хто ведае, што там са мной будзе. Могуць яшчэ штонебудзь прыпісаць. У Беларусь у бліжэйшы час не паеду».

У выніку затрымання Калеснічэнкі пацярпеў не толькі ён сам, а і ўсе беларусы. Праз тое, што 23 лютага грамадзянін Расіі ў Лоеве здымаў адміністрацыйныя будынкі, 25 лютага намеснік міністра ўнутраных спраў Мельчанка выдаў распараджэнне, якое абавязвае сілавыя структуры пільна ставіцца да тых, хто фатаграфуе адміністрацыйныя будынкі.

Першай ахвярай стаў фотакарэспандэнт «Камсамольскай праўды ў Беларусі» Дзмітрый Ласько. Яго на чатыры гадзіны затрымалі за тое, што ён рабіў фота новага асвятлення галоўнага корпуса Акадэміі навук. А 7 сакавіка ў Іўі за тое ж фатаграфаванне адміністрацыйных будынкаў затрымалі групу блогераў з Мінска.

Прэс-служба МУС у каментары БелТА патлумачыла, што праваахоўнікі маюць права ведаць аб мэце фатаграфавання адміністрацыйных будынкаў, але аб забароне на здымкі гаворка не ідзе.

**Кірыла Хілько**

# Новы «ўнутраны вораг»: футбольныя фанаты

Беларускіх «ультрас» вінавацяць у «супрацьпраўных памкненнях», яны ў адказ збіраюцца **ладзіць байкот**.

На мінулым тыдні, падчас сустрэчы з кіраўніцтвам органаў унутраных справаў, унутраных войскаў МУС і курсантамі Вайсковай акадэміі, Аляксандр Лукашэнка звярнуў увагу на актывізацыю «супрацьпраўных памкненняў асобных моладзевых аб'яднанняў». У прыватнасці — футбольных фанатаў. «Галоўнае ў краіне — гэта спакой», — шматзначна падкрэсліў кіраўнік дзяржавы.

У той самы дзень, падчас экскурсіі па вайсковай часці спецназа ва Уруччы, салавікі зладзілі для Лукашэнкі паказальны выступ — разгон пратэстнай акцыі. У ролі праціўніка выступалі фанаты-«ультрас». Байцы, якія ігралі іх ролю, закідвалі «сілы правапарадку» цэглай і бутэлькамі (**на фота**). Але былі разагнаныя.

Беларускі фанацкі рух нешматлікі, але праблемы з сіламі ахова парадку ў «ультрас» пачаліся задоўга да выказванняў Лукашэнкі. Фанаты розных клубаў неаднаразова скардзіліся на абуральныя, на іх думку, дзеянні міліцыі на стадыёнах: перапісванне пашпартных звестак,ператрусы, «этапаванне» на матчы.

А літаральна пры канцы лютага мінская міліцыя «загрузіла» ў аўтазакі каля сотні фанатаў «Дынама», якія сабраліся на таварыскі турнір па футболе.

Ціск на футбольных фанатаў можа быць абумоўлены той роляй, якую фанаты адыгралі падчас украінскіх падзей. Там «ультрас» ад першых дзён падтрымалі Майдан і разам з «Правым сектарам» сталі баявым крылом украінскай рэвалюцыі. Прызвычаеным да боек хлопцам было няцяжка супрацьстаяць «Беркуту».

А пасля перамогі Майдану «ультрасы» ўсходніх абласцей сталі той сілай, якая стрымала сепаратысцкія выступы ў Адэсе і Харкаве ва ўмовах бяздзеяння міліцыі. Дый знакамітая на ўвесь свет песня пра Пуціна і «ла-ла-ла» — таксама твор украінскіх футбольных фанатаў.

Сёння футбольныя фанаты масава ваююць на Данбасе за цэласнасць Украіны ў складзе ўкраінскіх добраахвотных батальёнаў. Ёсць там і беларускія «ультрас».

На радзіме ж беларускія фанаты сталі адным з каталізатараў нацыянальнага ўздыму ў моладзевым асяродку. Фанацкія групоўкі вядуць старонкі ў сацыяльных сетках па-беларуску, маюць беларускамоўную атрыбутыку і банеры, вырабляюць сувеніры, дзе побач з гербам клуба змяшчаюць «Пагоню».

А падчас нядаўняй сустрэчы зборных Беларусі і Украіны на «Барысаў-Арэне», выказваючы салідарнасць з украінцамі, увесь беларускі фан-сектар крычаў «Слава Украіне», на што ўкраінцы адказвалі «Жыве Беларусь». Таксама фанаты разам праспявалі песню аб прэзідэнце Расіі — усё гэта ў жывым эфіры паказвалі беларускія каналы. «Адбыўся кашмар», — так потым пракаментуе падзеі на трыбунах старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька.

Месяц таму на расійскім інфармацыйным партале Lenta.ru выйшаў артыкул, аўтар якога называў нашых «ультрас» беларускім «Правым сектарам». А такія акцыі, як вывешванне на трыбунах велізарнага банера ў гонар перамогі пад Оршай (дзе войскі ВКЛ у 1514 годзе нанеслі паразу захопнікам з Маскоўі), увогуле падаваліся аўтару артыкула абуральнымі.





Як жа фанацкі асяродак збіраецца рэагаваць на тое, што абвешчаны «дэструктыўным»? Абмяркоўваецца сцэнар агульнага байкоту матчаў. Заўзятары брэсцкага «Дынама», дарэчы, байкот хатніх матчаў ужо пачалі — аб гэтым яны заявілі ў сваёй суполцы «Укантакце».

«Трываць раздзяванне ў аўтазаках, хамства АМАПу ў нас няма жадання. Апрычнікі ў чорным, якія без сумневу атрымаюць у гэтым годзе поўны карт-бланш на любыя неадэкватныя дзеянні, будуць ахоўваць пустыя крэслы пустога стадыёна», — значылася ў паведамленні фанатаў.

У Мінску становішча аналагічнае. Як сказаў «НН» адзін з мінскіх фанатаў, дзеянні ўладаў падобныя да пошуку унутраных ворагаў з мэтай пацешыць элегантнай перамогай электарат. Таму байкот матчаў, маўляў, найлепшы сродак змагання з «зацісканнем гаек».

«Мы такія ж людзі, як і ўсе, — працуем, плацім падаткі. Але любім футбол і свой клуб. Мы што, можам зрабіць нейкую рэвалюцыю праз якасную падтрымку каманды і яскравыя банеры? Адказ — не. Улады шукаюць палітыку там, дзе яе няма», — сказаў «НН» хлопец, які захацеў застацца ананімным, бо баіцца рэпрэсій.

**Арцём Гарбацэвіч**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Профільны конкурс прыгажосці «Міс гандаль — 2015» прайшоў у Палацы прафсаюзаў 3 сакавіка. За званне найлепшай прыгажуні сферы абслугоўвання і гандлю змагалася 17 канкурсантак. Карону конкурсу і званне «Міс гандаль — 2015» атрымала №11 (злева ад мікрафона) — Таццяна Булгак.



Цюльпан даўно замацаваўся ў свядомасці беларусаў як сімвал 8 Сакавіка. За некалькі дзён да Міжнароднага жаночага дня вуліцы запаўняюцца сотнямі прадаўцоў цюльпанаў.

КІРЫЛА ХІЛЬКО



Міліцыя Беларусі атрымае новую форму. Новы дызайн пазбавіць форму лішніх элементаў. Першымі прымералі новую форму падраздзяленні ППС ГУУС Мінгарвыканкама і страявыя падраздзяленні Дэпартамента аховы МУС. Колер формы стаў на паўтону цямнейшы. Найбольш істотныя змены ў зімовай форме: уведзеная ўніверсальная куртка з бавоўнянай тканіны з цёплай падкладкай.



Японскі востраў Аасіма, на якім жывуць 20 чалавек і 120 катоў, атрымаў сусветную славу дзякуючы здымкам фатографа Reuters Томаса Петэра. Катоў завезлі на Аасіму, каб тыя знішчылі пацукоў, якія псавалі рыбацкія мярэжы. Але каты хутка распладзіліся і запаланілі невялічкую вёску на самотным востраве.



## Анекдоты і жарты

* * *

Жорсткія рэаліі беларускай эканомікі: гендырэктару завода падарылі курачку, якая нясе залатыя яйкі. Праз месяц курачка стала стратнай.

* * *

Размова двух алігархаў:

— А тут у мяне ванна...

— Ух ты! А залезці паспрабаваць можна?

— Вядома можна, толькі глядзі, за буйкі не заплывай!

* * *

У мяне цікавае шматгадовае хобі, але жонка патрабуе, каб я ад яго закадзіраваўся...

* * *

Стадыі росту барады: 1. Сэксі. 2. Тыдзень у запоі. 3. Марскі капітан. 4. Ваеннапалонны. 5. Бомж. 6.Чараўнік.

* * *

– У мяне дзве вышэйшыя адукацыі. Я марыў стаць навукоўцам і рухаць наперад навуку.

– Ого, нішто сабе! Ну, добра. Трымай улёткі і апранай касцюм морквы.

* * *

– Ты моцны, ты справішся.

– Я разумны, я нават не вазьмуся!

* * *

– У мяне да цябе пытанне. Толькі клянiся казаць праўду. Клянешся?

– Так. Пытай ужо.

– Ты мне здрадзіў?

– Лондан — сталіца Вялікабрытаніі.

* * *

– Падсудны, навошта вы кінулі каменем у прадаўца і разбілі яму галаву?

– Шаноўны суд, гэта быў не камень, а яго «свежая булачка».

* * *

У аддзеле кадраў.

— Вельмі шкада, але Вы нам не падыходзіце. Вам варта было б падцягнуць сваю англійскую мову.

— Прабачце, гэта была мая нямецкая...

## «НН» сто гадоў з вамі

**Самаход паміж Ракавам і Івянцом.** Жыхар мястэчка Ракаў М.Пазняк стараецца аб пазваленні наладзіць яму перавозку пасажыраў на аўтамабілі паміж станцыяй Заслаўе і мястэчкам Ракаў і паміж мястэчкамі Ракаў і Івянец.

**«НН». №10. 1915.**

**Памяці Карласа Шэрмана.** Сумная вестка прыйшла з нарвежскага Крыстыянсанду. Памёр Карлас Шэрман, які апошнія гады, з дапамогай нарвежскага ПЭН-клубу, знаходзіўся там на лячэнні. Цяпер нам яго будзе моцна не хапаць.

**«НН». №10. 2005.**

Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 10.03.2015.
Замова №931.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

9 771819 161008 15010